НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 32 (773) 29 жніўня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Топ-10 найкруцейшых школаў Беларусі



Ліцэі, гімназіі і «школа для Колі». Старонка 9.

## Якава Навуменку забілі ва Украіне



Гэта здарылася ў Севастопалі, дзе спявак у свой час пачаў дарогу ў жыццё. Старонка 13.

# Галасуй не галасуй…

Выбары ідуць **па старым сцэнары**: не зарэгістравалі нават Мілінкевіча. **Старонка 3.**




PHOTO.BYMEDIA.NET

Дыскусійны ліст

## «Будаўнікоў і сантэхнікаў трэба страляць як пры Сталіну»

А яшчэ лепш — **штрафаваць іх дзесяцімільённа** за кожную памылку.

Мне будуць казаць: з ЖЭСаўскай сферай нічога не зробіш. Але ж здавалася калісьці: з паступленнем ва ўніверсітэты нічога не зробіш. Карупцыя была ўсюды. А вось увялі цэнтралізаванае тэставанне, і адразу ўсё ўстала на месцы. Здавалася, чэргі ў БТІ вечныя, а з імі і неабходнасць даваць на лапу. Але правялі дэбюракратызацыю, і цяпер атрымліваем даведкі без неабходнасці клясці «гэту п'яўку».

Я хірург, і вось што мяне заўжды абурала. У нашай прафесіі кожная памылка робіцца тэмай для абмеркавання. А разгільдзяйства можа нават прывесці цябе ў турму.

А вось разгільдзяйства, нахабная, паўсюдная, будзённая халтура дарожнікаў, будаўнікоў, маляроў не паддаецца ў нашай краіне ні кантролю, ні пакаранню. Трэба каб здарылася нешта зусім жахлівае, як падзенне даху ў школе ў Краснаполлі, каб пачалося расследаванне. Трэба каб у выніку ямкі на МКАД пабілася 14 машын, каб нехта зачапіў тэму. А калі ў новым доме цячэ дах, не адкрываюцца форткі, сіфоніць каля шклопакета і трэскае тынк — гэта ў Беларусі звычайная рэч. Капрамонт два гады — гэта па-нашаму.

Неабходнасць змагацца з пабытовым ідыёцтвам мяне дабівае ў нашай краіне больш за ўсё.

**Працяг на старонцы 2.**

### Палітыка

## Пяць фактаў пра Андрэя Кабякова

Новы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта родам з Масквы. **Старонка 4.**



### Гаспадарка

## Агракамбінат «Дзяржынскі» — кузня міністраў

Залатая курыца беларускай эканомікі. **Старонка 5.**



### Здарэнні

## Сынам было два і сем гадоў

У Мінску журналістка выкінулася з акна з двума дзецьмі. **Старонка 7.**



### Экстрым

## Падарожжа вакол Зямлі. Грузія

Два мінскія студэнты выправіліся ў кругасветку. **Старонкі 10—11.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# «Будаўнікоў і сантэхнікаў трэба страляць як пры Сталіну»

Працяг са старонкі 1.

Чаму на выклік прыходзіць п’яны сантэхнік і ставіць мне пракладку пад бачок так, што праз тыдзень пачынае цячы вінт мацавання?

Чаму я павінен шкрэбсці шпатэлем вокны за тынкоўшчыкамі, якія заляпалі іх клеем?

Чаму ў мяне на вуліцы штогод вылазяць ямы ў асфальце і разбіваюць падвеску ў маёй машыне?

Гэта ўсё забірае ў мяне не толькі грошы — яно забірае ў мяне час, які я мог бы вытраціць на новых пацыентаў, на павышэнне кваліфікацыі. Я мог бы ў гэты час «ратаваць людзей», гаворачы высокім стылем. Урэшце, я маю права і на час для дзяцей, я маю права ў шахматы пагуляць, а не круціцца як вавёрка ў коле бытавых праблем. Калі ў краіне хірург павінен асабіста мяняць пракладкі ў кранах і мыць пляцоўкі ў пад’ездах — хоць ён плаціць грошы на ўтрыманне сантэхніка і прыбіральшчыцы, абавязак якіх тое рабіць, — такая краіна асуджаная на адставанне і заняпад, якія грошы ў яе ні ўбухай.

І кожны раз мне ўсё цяжэй супраціўляцца аргументам жонкі, якая кажа: Андрэю, у любой другой краіне на захад ад Гродна мы з табой будзем жыць лепей. Довад, што гэта адзіная краіна, дзе мы можам гаварыць па-беларуску і дзе нашы дзеці гадуюцца беларусамі, пакуль пераважвае. Але і крыўда за змарнаваны час, сапсаваныя нервы застаецца.

Кожны раз пры сутыкненні з гэтымі будаўнікамі і іншымі сантэхнікамі мне здаецца, што па справядлівасці іх трэ было б страляць як пры Сталіну. Хоць разумею, што гэта не выйсце.

Стварэнне прыватных ЖЭСаў, разузбуйненне будтрэстаў — гэта ўсё вырашэнні далёкія, структурныя. Я бачу, аднак, адзін досыць просты спосаб навесці ў гэтай сферы парадак. І не сталінскі, а еўрапейскі. У сферы будаўніцтва і ЖКГ трэба ўвесці незалежную — менавіта што незалежную — інспекцыю якасці працы і даць ёй паўнамоцтвы на вялізныя штрафы. Паявіліся ямы на дарозе, якую ты рамантаваў? Асабіста заплаці тысячу баксаў. Цячэ дах, які ты паставіў? Выкладзі трыццаць мільёнаў. Зафіксаваны твой выклік у кнізе заказаў ЖЭСа, а праз месяц ізноў пацёк кран? Заплаці пяць мільёнаў.

Вось тады яны пачнуць чухаць патыліцу. Дэфіцыту кадраў не будзе — гэтыя прафесіі зарабляюць цяпер столькі, што ўсе яны будуць трымацца зубамі за свае заробкі. Ведаю, пра што кажу: маю і сваякоў-будаўнікоў, дый здольны разлічыць, колькі зарабляюць кадры, якіх сам наймаў, пры існых расцэнках на будаўнічыя і камунальныя працы. Любы кладачнік-пэтэвэшнік на прыватных халтурах зарабляе сёння ўтрая больш, чым дыпламаваны хірург. І любы сантэхнік ЖЭСа спачатку паспрабуе раскруціць цябе на грошы і прапануе «разлічыцца на месцы». А ўжо што робіцца ў арганізацыях, якія валодаюць будтэхнікай... Там цэлыя ланцужкі для працы «налева».

Навялі парадак у таксістаў, у прыёмных камісіях і пашпартных сталах. Трэба ўправа і на цяперашніх незаслужаных каралёў жыцця — камунальнікаў і будаўнікоў.

**Андрэй Малашэня, хірург, Мінск**

**А Вы што думаеце пра якасць працы будаўнікоў і камунальнікаў? Якім спосабам можна павысіць якасць іх працы? З якімі сітуацыямі сутыкаліся вы ў часе капрамонтаў? І што, з іншага боку, думаеце вы, будаўнікі?**

## Сцісла

### Аліеў прыбыў у Мінск

У аэрапорце яго сустракаў асабіста Лукашэнка. Цікава, што паралельна ў сталіцы Ірана адбываўся саміт Руху недалучэння, а Іран і Азербайджан апошнім часам не ладзяць.

### Пасольства Беларусі закідалі камянямі

Дэманстранты ў Бішкеку патрабавалі выдачы братоў Бакіевых, якіх бачылі ў Беларусі. Жаныша Бакіева вінавацяць у забойствах, а Курманбека — у раскраданні краіны.

МЗС Беларусі выказаў пратэст супраць інцыдэнту.

### Справу Пачобута працягнулі

Журналіст перакананы, што органы вернуцца да яго адразу пасля парламенцкіх выбараў. Пачобута вінавацяць у паклёпе на Аляксандра Лукашэнку.

**МБ**

## Фотафакт

У мінскім метро з’явіліся схемы, на якіх назвы станцый дублююцца на беларускай лацінцы. У дасавецкі час такі правапіс шырока ўжываўся. На ім выдавалі свае кнігі Янка Купала і Францішак Багушэвіч. Беларуская лацінка чымсьці падобная да чэшскай. Пры саветах яе забаранілі.

Цяпер Акадэмія навук прыняла новую норму лацінічнай транскрыпцыі. Праўда, пакуль лацінічнае пісьмо не вывучаюць у школах, яно не мае шанцаў на шырокі ўжытак.

А вось Азербайджан, Малдова і Узбекістан увогуле перавялі свае мовы з кірыліцы на лацінку. Гэта крок палітычнай і культурнай значнасці.

Новыя шыльды ў метро — сімвалічны прэцэдэнт.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Анекдоты

* * *

Калі Леаніду Якубовічу наступілі на нагу, ён не пасаромеўся і назваў усё словы цалкам.

* * *

— Вовачка, калі ты будзеш добра вучыцца, то трапіш у рай. А калі дрэнна, то ў пекла!

— А жывым школу скончыць можна?

* * *

На іспытах у разведшколу абітурыент не адказаў ні на адно пытанне, у выніку чаго быў залічаны адразу на другі курс.

* * *

Павесіў сабе дзядзька над сталом плакацік: «Дзякую Лукашэнку за шчаслівае дзяцінства!» Пабачыў тое сусед і кажа:

— Слухай, калі ты быў малы, Лукашэнка яшчэ не быў прэзідэнтам.

— Вось за гэта і дзякуй!

* * *

— Ці доўга чакаць пераменаў да лепшага?

— Калі чакаць, тады — доўга.

* * *

Спецназавец быў любімцам дзяцей, бо, калі гуляў у двары ў Алі-Бабу, умеў трымаць ачапленне.

**Дзе варта быць**

# Гонар працоўнай сталіцы, або Derby Day у Мінску

1 верасня (субота) у чэмпіянаце Мінска па футболе — чырвоны дзень календара, які стаіць асобна ад іншых гульняў трэцяй лігі беларускага футбола. А 16-й у САК «Алімпійскі», што на вуліцы Сурганава, сустракаюцца дзве мінскія каманды: «Тарпеда» і «Партызан» (былы МТЗ).

Нават заўзятых аматараў футбола наўрад ці прывабіш гульнямі трэцяй лігі, але, калі гуляе «Тарпеда» супраць «Партызана», увага ўсёй футбольнай супольнасці прыцягнута да гэтага матча двух непрымірымых супернікаў, якія праз фінансавыя праблемы зараз вымушаны існаваць на самым дне беларускага футбола.

Паводле накалу жарсцей з гэтай гульнёй можа канкураваць толькі «класіка» «Дынама» — БАТЭ ў вышэйшай лізе.

Гэтае дэрбі сягае сваімі каранямі ў БССР сярэдзіны XX ст., калі МАЗ і МТЗ былі прынцыповымі супернікамі не толькі ў спорце.

Сучаснае суперніцтва «Тарпеда» і «Партызана» набыло рысы не толькі карпаратыўнай канкурэнцыі, але і ідэалагічнага супрацьстаяння. Большасць фанаў «Тарпеда» — прыхільнікі правых, кансерватыўных ідэй з арыентацыяй на нацыянальныя каштоўнасці, прыхільнікі «Партызана» пазіцыянуюць сябе як інтэрнацыялісты, антыфашысты і барацьбіты з рознымі формамі дыскрымінацыі.

Але ў абедзвюх камандаў ёсць шмат супольнага: абодва клубы кінутыя на волю лёсу футбольнымі ўладамі краіны і горада і цяпер існуюць на голым энтузіязме.

Можна не сумнявацца, што гульня будзе прынцыповай і будзе праходзіць пры аншлагу.

**Адрас клуба фанатаў «Тарпеда» fctm1947@gmail.com.**

## Самае чытанае на nn.by за 22—28 жніўня

1 Страшная трагедыя ў Мінску: журналістка выкінулася з акна разам з двума дзецьмі

2 Спевака Якава Навуменку забілі ў Крыме

3 Журналістам паказалі пашпарт Лукашэнкі — фота

4 Прадаецца катэдж за 400 000 у.а., мухі ў камплекце

5 Аляксандр Мілінкевіч: Ведаеце, расстроіўся

6 Пяць фактаў пра Андрэя Кабякова

7 Лукашэнка vs Брэжнеў: пры кім лепей жылося?

8 Фотазагадка: Колькі грыбоў вы бачыце на здымку?

9 Зручны складны крыж Патрыярха — відэа

10 Кандыдат запісаў тэлезварот у майцы «За Беларусь без Лукашэнкі»

# Галасуй не галасуй…

Выбары ідуць **па старым сцэнары**: не зарэгістравалі нават Мілінкевіча.

Сталі вядомыя прозвішчы тых, хто балатуецца ў дэпутаты.

Парламенцкія выбары пройдуць 23 верасня. Пра другі тур ніхто нават не ўзгадвае. У папярэднія гады другога дня галасавання не спатрэбілася ў ніводнай акрузе, дэпутатаў «абралі» ў аснoўны.

Кандыдатамі зарэгістраваны 361 чалавек. Гэта больш, чым чатыры гады таму. Агулам жа вылучаліся 494 прэтэндэнты.

Кампанія не далічылася знакавых постацяў. Не зарэгістравалі, напрыклад, лідара Руху «За свабоду» Аляксандра Мілінкевіча, які праводзіў актыўную кампанію ва Уручы.

У Купалаўскай акрузе кандыдатам не стаў прадстаўнік «Гавары праўду» Міхаіл Пашкевіч, акруговая камісія палічыла частку подпісаў несапраўднай. Увогуле, у «Гавары праўду» зарэгістравалі толькі палову вылучэнцаў.

**Безальтэрнатыўная Гродзеншчына**

Толькі па адным кандыдаце будзе ў Баранавіцкай сельскай, Шчучынскай, Вілейскай і Заслаўскай акругах.

Калі Партыі БНФ і АГП вытрымаюць свае рашэнні зняць кандыдатаў перад выбарамі, то безальтэрнатыўнымі стануць яшчэ 12 акруг — Баранавіцкая-Заходняя, Белавежская, Пружанская, Пінская гарадская, Гомельская-Сельмашаўская, Ваўкавыская, Гродзенская сельская, Мастоўская, Навагрудская, Смаргонская, Барысаўская гарадская, Крычаўская.

**Кандыдат запісаў тэлезварот у майцы «За Беларусь без Лукашэнкі»**

У Гомелі кандыдат па Навабеліцкай выбарчай акрузе № 36, сябра АГП Уладзімір Няпомняшчых прыйшоў на мясцовае тэлебачанне ў футболцы з надпісам «За Беларусь без Лукашэнкі». Цяпер вертыкальшчыкі думаюць, ці пускаць зварот у эфір.

У Брэсце за запаветны мандат не зможа пазмагацца былы сацыял-дэмакрат Анатоль Ляўковіч, які так хацеў стаць «канструктыўнай апазіцыяй». Выглядае, што не патрэбны.

А вось партыйныя лідары прайшлі без збояў. У Мінску зарэгістраваныя Анатоль Лябедзька (АГП) і Аляксей Янукевіч, у Шклове — Рыгор Кастусёў (абодва — Партыя БНФ).

У Барысаве ўжо пасля рэгістрацыі нечакана перайгралі рашэнне па галоўным рэдактары «Барысаўскіх навін», паплечніку Статкевіча Анатолю Букасу. Ён, маўляў, не задэклараваў продаж аўтамабіля. Гэткая самая трасца здарылася і з комікам Яўгенам Крыжаноўскім. Яшчэ адна медыйная асоба — доктар Хадоркін — таксама не прайшоў рэгістрацыю.

### 21 дэпутат

Лукашэнка неяк казаў, што хацеў бы, каб у парламенце працягвала працаваць трацiна дэпутатаў. На справе ж выявілі жаданне, ці за іх выявілі, толькі 21 дзейсны дэпутат палаты прадстаўнікоў, ці 19%.

Сярод такіх сённяшні спікер Уладзімір Андрэйчанка. Ён вылучаецца ў Докшыцах—Глыбокім. Ад апазіцыі па гэтай акрузе сёлета нікога не будзе, бо Яраслаў Берніковіч вырашыў балатавацца ў Наваполацку.

Талачынскі кансервавы завод ад свайго працоўнага калектыву вылучыў яшчэ аднага заслужанага пенсіянера — Аляксандра Папкова. Некалі ён быў намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, а цяпер у другі раз абіраецца ў парламент.

Толькі адзін былы дэпутат — Сяргей Канопліч — балатуецца па Гомельшчыне. А па Гродзеншчыне няма ўвогуле ніводнага.

Вайсковец Віктар Гумінскі вырашыў гэтым разам балатавацца ад Барысаўскай сельскай акругі, а не гарадской. Гумінскі вядомы сваімі анекдатычнымі выказваннямі пра крымінальны артыкул аб дармаедстве.

Святлана Шылава балатуецца ў сталічнай Паўднёва-Заходняй акрузе. Вядомасць Шылавай прынеслі словы аб тым, што сям'я з двума дзецьмі можа спакойна пражыць на заробак у тры мільёны.

### Эксперыментальныя акругі

У большасці акругаў называць будучых дэпутатаў можна ўжо сёння, але ёсць некалькі, дзе за мандат пазмагаюцца некалькі лукашэнкаўцаў адначасова.

Асабліва на гэтым фоне вылучаецца Брэст. У Брэсцкай-Цэнтральнай у дэпутаты ідуць дырэктар абласной філіі «Белдзяржстраха» Іван Башчук і галоўны доктар мясцовай бальніцы Валянцін Мілашэўскі.

У Брэсцкай-Усходняй змагаюцца дэпутатка Ларыса Багдановіч і прарэктар мясцовага Тэхнічнага ўніверсітэта Вячаслаў Драган. У Брэсцкай-Пагранічнай — ваенкам Уладзімір Базанаў і дырэктар цэнтра сацыяльнага абслугоўвання Святлана Міхайлоўская.

У Пухавіцкай выбарчай акрузе №65 таксама будзе цікавы выбар. Балатуецца ўсяго два кандыдаты, але якія. Намеснік міністра ўнутраных справаў Валеры Гайдукевіч і кіраўніца справаў Старадарожскага райвыканкама Вольга Пархімовіч.

У Капылі удзельнічаюць начальніца аддзела моладзі райвыканкама Наталля Гарбацэвіч і старшыня Клецкага райвыканкама Анатоль Бойка.

У Стаўбцоўскай акрузе на выбары ідзе памочнік прэзідэнта Мікалай Іванчанка і першая сакратарка Нясвіжскага камітэта БРСМ Вольга Сільвановіч. Так ствараецца ілюзія дэмакратыі.

Дарэчы, балатуюцца яшчэ два памочнікі Лукашэнкі па Брэсцкай (Уладзімір Пузырэўскі) і Гомельскай (Ігар Пракапенка) абласцях.

Псеўдаканкурэнцыя плануецца і ў Купалаўскай акрузе Мінска. Тут сышліся начальнік Ленінскага аддзела дэпартамента аховы МУС Валеры Дашкоўскі, галоўны доктар 18-й паліклінікі Вадзім Касцюкоў і дзейная дэпутатка Валянціна Лявоненка.

### Дэпутацтва як кампенсацыя за малыя заробкі

Звяртае на сябе ўвагу, што аж 17 новых праўладных вылучэнцаў маюць дачыненне да сістэмы адукацыі. Гэта дырэктары школ, каледжаў, начальнікі аддзелаў адукацыі райвыканкамаў, дэканы ўніверсітэтаў.

Менавіта ва ўстановах адукацыі часта знаходзяцца выбарчыя ўчасткі. Відаць, падзяка за добра прароблeную працу.

**Апазіцыя ёсць, але яе не прапускаюць**

Прадстаўнікі апазіцыі зарэгістраваныя кандыдатамі ў дэпутаты ў 78 са 110 выбарчых акруг. Пры гэтым Беларусь — адзіная краіна Еўропы, дзе ў парламенце засядае толькі адна палітычная сіла, а апазіцыі няма.

Яшчэ ў дэпутаты вылучаецца дзевяцера медыкаў. Сямёра з іх кандыдаты ад улады. А вось аўтарытэтнаму слонімскаму доктару-траўматолагу Івану Шэгу (Партыя БНФ) і віцебскаму лекару хуткай дапамогі Аляксандру Вінаградаву («Справядлівы свет») не прыходзіцца спадзявацца на месцы ў парламенце.

### Старшыні райвынкамаў і КДБ

Масава пайшлі ў дэпутаты і старшыні райвыканкамаў — Баранавіцкага, Пружанскага, Шаркоўшчынскага, Лепельскага, Аршанскага, Рэчыцкага, Жлобінскага, Шчучынскага, Клецкага, прадстаўнікі Мінскага і Барысаўскага райвыканкамаў.

У Полацкай сельскай акрузе балатуецца намеснік начальніка ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці Васіль Папко. Хоча стаць народным абраннікам і начальнік упраўлення эканамічнай бяспекі КДБ Віктар Русак.

У Наваполацку зарэгістраваны малатабоец Вадзім Дзевятоўскі, які актыўнічае ў «Белай Русі». Гэта, мусіць, адзіны выпадак у свеце, калі ў палітыку піхаюць спартоўца, які трапіўся на допінгу, г.зн. на падмане. І гэта так паказальна.

**Зміцер Панкавец**

# Аляксандр Мілінкевіч: Ведаеце, расстроіўся

Лідар Руху «За Свабоду» **не зарэгістраваны** кандыдатам па Уручанскай акрузе Мінска.

**«Наша Ніва»: Як Вы ацэніце рашэнне акруговай камісіі?**

**Аляксандр Мілінкевіч:** Улада дзейнічае кіруючыся мэтазгоднасцю, а не законам. Подпісы, што мы здалі, правяралі дзве групы графолагаў з МУС. У іх не было прэтэнзій да саміх подпісаў, а толькі да таго, ці той рукой пастаўлена дата. Чапляліся як маглі. Калі б улады разумелі важнасць пакрокавага нармалізавання стасункаў з Захадам, то бачылі б неабходнасць said жання ў парламенце людзей з іншым меркаваннем. Я думаў, што яны ўжо да гэтага саспелі, але зусім не саспелі.

**«НН»: Вялікі працэнт подпісаў забракавалі?**

**АМ:** Спачатку правяралі 200 подпісаў. Пасля на дадатковую праверку ўзялі яшчэ 150. З гэтых 350 — 99 былі прызнаныя несапраўднымі. Але ж абсалютная лухта. У маёй камандзе працавалі дасведчаныя людзі, якія праводзяць не першую кампанію.

**«НН»: Расстроіліся?**

**АМ:** Ведаеце, так. Не таму, што верыў у справядлівасць. А таму, што хачу працаваць з людзьмі. Вельмі хацелася ярка правесці другую фазу кампаніі. Зрэшты, буду працаваць і без выбараў: сустракацца з людзьмі, ездзіць па краіне. Мне здавалася, што ўлады больш цвяроза ацэньваюць свае сілы. Гатовыя пайсці на нейкую эвалюцыю, гульню ў дэмакратыю, калі хочаце. Не ідуць. Самі ж робяць сабе шкоду.

**Гутарыў ЗП**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Дашкевіча хочуць згнаіць у турме

Юнаку-палітвязню дадалі год зняволення.

Дашкевіча абвінавацілі ў непадпарадкаванні адміністрацыі калоніі. Па справе праходзілі 36 сведкаў, суд прайшоў пры зачыненых дзвярах. Сам Дашкевіч адмовіўся даваць паказанні і не прызнаў сябе вінаватым.

З размоваў з супрацоўнікамі калоніі нявеста Змітра Наста Палажанка даведалася, што гэта ці не адзінкавы выпадак, калі па такім артыкуле асуджаюць на максімальны тэрмін зняволення.

Дадатковы год пачнуць адлічваць ад прысуду, а не са снежня, калі заканчваецца тэрмін зняволення па папярэднім прысудзе.

Па словах Насты Палажанкі, свае шматгадовай дзейнасцю Зміцер паказаў, што нічога не баіцца. Некалькі разоў ён адмаўляўся пісаць прашэнні аб памілаванні на імя Лукашэнкі.

**Кастусь Матушыч**

# Пяць фактаў пра Андрэя Кабякова

Лукашэнка замест Уладзіміра Макея прызначыў **кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта** пасла Беларусі ў Расіі.

**1. Нарадзіўся ў Маскве**

Да гэтага з кіраўнікоў Адміністрацыі прэзідэнта толькі Урал Латыпаў (2001–2004) не быў ураджэнцам Беларусі. Зрэшты, Кабякоў жыве на тэрыторыі Беларусі з трохгадовага ўзросту. Нямала крыві ён папіў расійскаму боку на перамовах аб энерганосьбітах, пра гэта нават жартаваў Пуцін. «А што мне рабіць у Маскве? Так, я там нарадзіўся, але з 1963 года жыву тут. Нікуды з'язджаць з нашай краіны я не збіраюся», — сказаў неяк Андрэй Кабякоў. Усё ж на гістарычную радзіму выправіцца яму давялося — у якасці пасла. Праўда, прабыў ён на гэтай пасадзе менш за год (ад лістапада 2011).

Аляксандр Лукашэнка часта прызначае на важныя пасады неўраджэнцаў Беларусі. Такія людзі апрыёры не могуць вырасці яму ў канкурэнтаў. На сёння міністры абароны, унутраных справаў, па надзвычайных сітуацыях і кіраўнік КДБ — усе родам не з Беларусі.

**2. Скончыў Авіяцыйны інстытут**

Кабякоў атрымаў добрую адукацыю. У 1983 годзе ён скончыў Маскоўскі авіяцыйны інстытут. Паступіць туды ў 1970-ыя было нялёгкай справай. Праўда, у лётчыкі хлопец не пайшоў. У год абвяшчэння незалежнасці Кабякоў яшчэ скончыў наргас і Інстытут паліталогіі і сацыяльнага ўпраўлення КПБ.

**3. Пратэжэ Даўгалёва**

Пасля вучобы ў Маскве ён вярнуўся ў Беларусь, дзе спачатку папрацаваў на заводзе імя Вавілава ў Мінску, а потым перайшоў на рагачоўскі завод «Дыяпраектар». Там Кабякоў прайшоў праз розныя пасады: старшы майстар, намеснік начальніка цэха, намеснік начальніка зборачнай вытворчасці. Харэктарна, што ў гэты час на заводзе працаваў Васіль Даўгалёў, яшчэ адна відная асоба беларускай палітыкі. У 1990 Даўгалёў трапіў у Вярхоўны Савет. У 1994 ён стане намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэ-зідэнта. Менавіта Даўгалёў перацягнуў Кабякова за сабой у Мінск. 35-гадовы намеснік дырэктара «Дыяпраектара» стаў намеснікам начальніка Службы кантролю, аналага сённяшняга КДК. Фантастычны ўзлёт. Урэшце Кабякоў так і не выпадаў з уладнай абоймы. У яго былі пасады старшыні Камітэта дзяржкантролю, міністра эканомікі, віцэ-прэм'ера.

**4. Працуе з 8:00 да 21:00 і на выхадных**

Некалі Кабякоў падзяліўся з журналістамі сваім працоўным графікам. «Я працую звычайна ад 8:00 да 21:00. Хіба што ў выхадныя больш працаваць стаў». Тады Кабякоў быў яшчэ віцэ-прэм'ерам. «Гадзіннік у мяне не „Луч“, абутак не памятаю, а вось практычна ўсё астатняе — айчыннае», — зазначыў ён.

**5. Лукашэнка хрысціў сына Кабякова?**

Ёсць такая байка, што аднойчы Андрэй Кабякоў папрасіў Аляксандра Лукашэнку стаць хросным бацькам сына віцэ-прэм'ера. І Лукашэнка, як ні дзіўна, згадзіўся.



PHOTO BYMEDIA.NET

Пасля гэтага кіраўнік дзяржавы заўсёды меў пэўны піетэт да Кабякова.

Ці не ўпершыню, калі не лічыць Мясніковіча, кіраўнікам Адміністрацыі прэзідэнта прызначаны «гаспадарнік». Да яго структуру ўзначальвалі будаўнік Сініцын, сілавікі Латыпаў, Шэйман і Нявыглас, разведчык Макей. Выглядае, што эканоміка выходзіць на першы план перад палітыкай.

Калі міністр замежных справаў у беларускіх умовах адказны толькі за адносіны з Захадам і туды прызначылі Уладзіміра Макея, які мае празаходнюю рэпутацыю, то Адміністрацыю прэзідэнта аддалі чалавеку, які найлепш ведае ўваходы і выхады Масквы.

**Зміцер Панкавец**

# Па Мінску гуляюць падазраваныя ў кыргызскіх забойствах

Міхасю Пашкевічу перадалі **«прывітанне» ад Бакіева**.

Не ўсё добра ў Беларусі на дыпламатычным фронце не толькі на заходнім накірунку. У пятніцу Кыргызстан адклікаў з Мінска свайго пасла.

Гісторыя пачалася 17 жніўня, калі актывіст кампаніі «Гавары праўду» Міхась Пашкевіч зрабіў здымак наведвальнікаў кавярні «Грунвальд». «Я думаў, што гэта Курманбек Бакіеў. Усе ж ведаюць, што ён атрымаў прытулак у Беларусі. Гэта было фота для сяброў у фэйсбуку. Маўляў, паглядзіце, якія людзі побач з намі на вуліцы Карла Маркса», — кажа хлопец.

Праўда, потым высветлілася, што гэта зусім не Курманбек, а ягоны брат Жаныш, абвешчаны ў міжнародны вышук. Жаныш быў кіраўніком службы дзяржбяспекі, калі Кыргызстанам кіраваў ягоны брат.

Разам з Бакіевым на здымках засвяціліся Тахір Рысаліеў (намеснік Жаныша ў дзяржбяспецы) і Рустам Сайдуеў. Усе яны з'яўляюцца галоўнымі падазраванымі ў справе забойства кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Медэта Садыркулава. Некалькі разоў з крымінальнага вышуку Кыргызстана ў Беларусь накіроўваліся запыты пра знаходжанне гэтых людзей, але з Мінска адказвалі, што не маюць звестак.

Ніяк не рэагуюць на апублікаваныя здымкі ўлады і цяпер. Рэакцыі МЗС ці сілавых структур аб знаходжанні ў Беларусі імаверных злачынцаў не паследавала. Толькі беларускі пасол у Кыргызстане сказаў, што здымкі — фаташоп. Але ж і пра шведскіх мішак казалі тое самае. «Калі ўладам трэба папалохаць Міхалевіча па лініі Інтэрпола, то яны карыстаюцца гэтымі магчымасцямі, цяпер жа маўчаць.», — кажа М.Пашкевіч.

У той дзень, калі Бішкек адклікаў з беларускай сталіцы пасла Эрыка Асаналіева, Міхась Пашкевіч атрымаў дзіўнае «прывітанне». «Гэта адбылося ў кавярні «Атэльe», я там ніколі не быў, заехаў выпадкова. Літаральна праз пяць хвілін афіцыянтка прынесла сурвэтку з пасланнем, там было напісана: «Міша, вам прывет ад сп.Бакіева».

Высветліць, хто быў аўтарам цыдулкі, не ўдалося. Мужчына, які напісаў ліст, адразу пакінуў кавярню. «Выглядае, што за мной сачылі. Калі я выйшаў з «Атэльe», то за намі да самага дома ўвязаўся «мінівэн». Калі б хацелі нешта зрабіць, то, вядома, зрабілі б. Мне здаецца, што мне хацелі паказаць усю безабароннасць, калі я сяджу разам з дзяўчынай у кавярні і нічога не магу зрабіць», — кажа Пашкевіч.

Цяпер актывіст рыхтуе зварот па факце сачэння ў Генеральную пракуратуру.






**ЗП**

# Брэйвіку далі 21 год турмы



Гэты тэрмін **можа быць падоўжаны.**

24 жніўня скончыўся працэс Андэрса Брэйвіка. Суд прызнаў яго псіхічна здаровым і адмераў максімальны па нарвежскіх законах тэрмін зняволення — 21 год. Ён можа быць падоўжаны, калі суд вырашыць, што Брэйвік працягвае ўяўляць пагрозу для грамадства.

33-гадовы Брэйвік прыняў прысуд з усмешкай на твары. Абвінавачванне заклікала прызнаць яго псіхічна хворым. Гэта азначала для тэрарыста прымусовае псіхіятрычнае лячэнне. Па яго словах, гэта было б для яго «горшым за смерць».

Адбываць пакаранне тэрарыст будзе ў турме «Іла». Яго «апартаменты» ўключаюць спальню, кабінет з камп'ютарам і пакой для фізічных практыкаванняў. Акрамя таго, ён будзе мець магчымасць дыхаць свежым паветрам у спецыяльным дворыку.

Нарвежскія СМІ падлічылі, што знаходжанне Брэйвіка ў турме будзе каштаваць бюджэту краіны каля 700 тысяч еўра. Для Брэйвіка падрыхтавалі таксама дзве рэзервовыя турмы.

22 ліпеня 2011 Андэрс Брэйвік здзейсніў падвойны тэракт. У Осла ў выніку зладжанага ім выбуху загінулі 8 чалавек. На востраве Утоя ён застрэліў 69 і параніў 240 удзельнікаў маладзевага летніка.

**Сямён Печанко**

**У Чэхіі затрымалі паслядоўніка Брэйвіка**

Спецслужбы Чэхіі затрымалі 29-гадовага мужчыну, які планаваў маштабны тэракт у «стылі Брэйвіка». У ягонай кватэры ў горадзе Астрава знайшлі зброю, выбухоўку і паліцэйскую форму. Перад гэтым ён разаслаў электронныя лісты, у якіх падпісаўся імем нарвежскага тэрарыста.

# Залатая курыца беларускай эканомікі

**Агракамбінат «Дзяржынскі» стаў кузняй міністраў сельскай гаспадаркі.**

Апошнім часам агракамбінат «Дзяржынскі» ўпэўнена ўмацаваўся ў топ-15 самых прыбытковых акцыянерных таварыстваў краіны, трэці год запар прыносячы дзяржаве стабільныя $23—24 мільёны.

Дастаткова паглядзець леташнія фінансавыя справаздачы. «Амкадор», «Гродна Хімвалакно», «Белшына», «Керамін» — усе гэтыя кампаніі прайграюць дзяржынскаму прадпрыемству, якое займаецца вытворчасцю мяса птушкі і трусоў. А заадно і вытворчасцю міністраў сельскай гаспадаркі.

Генеральнага дырэктара Леаніда Зайца кіраўнік дзяржавы падчас візіту на агракамбінат паклікаў ва ўрад літаральна тыдзень таму. Чатыры гады таму тым самым шляхам — з дырэктараў у міністры — прайшоў і папярэднік Зайца, Сямён Шапіра.

### Ідэя Шапіры

Агракамбінат «Дзяржынскі» сваім стварэннем абавязаны менавіта Шапіру. У 2003 было прынята рашэнне масава далучаць стратныя прадпрыемствы да «перадавікоў». Шапіра, які лічыўся прыхільнікам рынку і раней быў сябрам АГП, у той час працаваў у Міністэрстве эканомікі і здолеў пралабіраваць ідэю стварэння сельскагаспадарчага холдынга на базе Дзяржынскай бройлернай фабрыкі, якая месцілася ў Фаніпалі. Да яе ўсімі праўдамі і няпраўдамі далучылі з дзясятак прадпрыемстваў Дзяржынскага і Стаўбцоўскага раёнаў. Шапіра стаў дырэктарам новаўтворанай эксперыментальнай установы.

Акцыі агракамбіната раздалі супрацоўнікам. Праўда, на руках у 2600 «акцыянераў» аказалася менш за 1% акцый. А вось 99% належаць дзяржаве, якая не хоча выпускаць з рук ласы кавалак.

### Насуперак Дзяржкантролю

Мадэль лукашэнкаўскага аграпрамысловага холдынга, адным з самых яркіх прыкладаў якога з'яўляецца «Дзяржынскі», патрабуе існавання поўнага вытворчага цыкла. Кампаненты, якія адсутнічаюць, трэба альбо ствараць з нуля, альбо забіраць у суседніх гаспадарак, якія далёка не заўсёды рады дзяліцца сваімі дробнымі здабыткамі. З такой сітуацыяй Шапіра сутыкнуўся, калі ягоную занадта актыўную дзейнасць па зўбуйненні «Дзяржынскага» пачаў правяраць Дзяржкантроль. Скептычна да ягонай ідэі паставілася спачатку і цэнтральная дзяржаўная прэса.

Аднак апошняе слова засталося за Шапірам, які меў добрую рэпутацыю. Справа ў тым, што, у адрозненне ад іншых гаспадарак, «Дзяржынскі» не патрабаваў шмат дзяржаўных датацый, абнаўляючы тэхніку за кошт прадпрыемства.

### Праблемы росту

Шапіру ўдалося адстаяць сваю стратэгію і пайсці на павышэнне. Ягонаму паслядоўніку Зайцу давялося вырашаць іншую задачу — павялічэнне аб'ёмаў вытворчасці. Зрабіць гэта бязбольна не ўдалося.

Мінск, які з'яўляецца для «Дзяржынскага» галоўным рынкам збыту, быў гатовы «праглынуць» ледзь не любыя аб'ёмы курыц-бройлераў. Каб задаволіць попыт, летась забой птушкі быў павялічаны ўдвая, да 80 тысяч штук у дзень.



**На «Дзяржынскі» возяць замежныя дэлегацыі. Леанід Заяц (справа) і прэзідэнт Венесуэлы Уга Чавес.**

**Прыбытак «Дзяржынскага»**

2009 — $23,8 мільёна

2010 — $24,4 мільёна

2011 — $23,3 мільёна

Фабрыка і раней «біла» па Фаніпалі спецыфічным пахам, а пасля павелічэння магутнасцяў не вытрымалі камунікацыі. Гараджанаў пакінулі без пастаяннага водазабеспячэння, растлумачыўшы, што ваду забіраюць для патрэбаў вытворчасці, і паабяцаўшы новыя свідравіны. Пасля ўзнятага скандалу разрытыя трубы хуценька закапалі і вада ў кранах з'явілася, аднак сёлета жыхары Фаніпаля зноў рыхтуюцца да горшага.

### Еўрапейскі сертыфікат

Леанід Заяц, выканаўшы сваю місію, адправіўся бітай дарожкай на пасаду міністра сельскай гаспадаркі. Задачай для новага дырэктара на бліжэйшыя гады выглядае павелічэнне экспарту ў еўрапейскія краіны. Нездарма сёлета ў маі «Дзяржынскі» першай з птушкафабрык краіны атрымаў сертыфікат якасці, які дазваляе рэалізоўваць прадукцыю ў Еўрасаюзе.

**Ягор Марціновіч**

## Шакуцін працаўладкаваў былога памочніка Лукашэнкі

**Сяргей Ткачоў стаў першым намеснікам дырэктара «Амкадора».**

Усяго каля тыдня спатрэбілася аднаму з самых уплывовых чыноўнікаў, каб знайсці працу ў бізнэсе. Сяргей Ткачоў апошнія адзінаццаць гадоў кансультаваў Аляксандра Лукашэнку па эканамічных пытаннях і шмат у чым накіроўваў эканамічны курс дзяржавы. Цяпер свае тэарэтычныя веды ён ужыве ў рэальным сектары. Былы памочнік стаў першым намеснікам генеральнага дырэктара холдынга «Амкадор».

Былому чыноўніку адміністрацыі прадказвалі розныя варыянты развіцця кар'еры. Не выключалася праца ва ўрадзе ў якасці віцэ-прэм'ера ці міністра. «Амкадор» можа быць для яго толькі пераходным этапам. Пакуль жа досвед і кола знаёмстваў, якімі за апошнія дзесяць гадоў аброс Ткачоў, будуць запатрабаванымі Аляксандрам Шакуціным.

Старшыня рады дырэктараў і акцыянер «Амкадора» Аляксандр Шакуцін на сёння з'яўляецца адным з двух (апроч Юрыя Чыжа) самых уплывовых алігархаў Беларусі. Яго бізнэсы дынамічна развіваюцца, у тым ліку за кошт прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці і доступу ў найбольш прыбытковыя сегменты беларускай эканомікі.

У Шакуціна няма ніякіх комплексаў пры найме на працу былых чыноўнікаў. На працягу некаторага часу бізнэсмэн выступаў працадаўцам былога кіраўніка канцэрна «Беллегпрам» Эдуарда Нарышкіна. І сёння працуе ў структуры «Амкадора» і былы кіраўнік МАЗа Мікалай Касцень.

**Паводле Ej.by**

## У Мінску адкрываецца новы гіпермаркет

**У гандлёвым цэнтры All з'явіцца вялікая крама «Суседзі».**

У пачатку верасня на Даўгінаўскім тракце ў Мінску адкрываецца новы гандлёвы цэнтр All, які будзе належыць групе кампаній «А-100». Яе ўладальнік — бізнэсмэн Аляксандр Цэнтэр. Сярод ягоных актываў бізнэсцэнтр і сетка з 20 запраўак «А-100», сетка рэстаранаў «Сан-Кафэ», а таксама жылы раён «Зялёны Бор» за 6 км ад Мінска.

У гандлёвым цэнтры будзе адкрыты першы ў Беларусі гіпермаркет сеткі «Суседзі». Два дзясяткі крамаў гэтай сеткі належаць літоўцы Алме Юнуцэмене. Апроч таго, сваё памяшканне ў гандлёвым цэнтры займе найвялікшая крама спартыўнага адзення Adidas.

У Беларусі ўжо працуюць гіпермаркеты «Бігз», «Прастор», «Карона», «Гіпа» і «Еўраопт».

**ЯМ**

### Сцісла

**Ад выбараў да выбараў зарплата $470**

У ліпені беларус з сярэднім заробкам стаў зарабляць амаль на 175 тысяч больш, чым месяц таму. У выніку заробак дасягнуў 3 926 тысяч рублёў. Гэта $472 у эквіваленце. Адметна, што столькі ж беларусы зараблялі ў лістападзе 2010, за месяц да прэзідэнцкіх выбараў. Тады такі рост заробкаў скончыўся перагрэвам эканомікі.

**Увазныя пошліны паменшалі**

22 жніўня Расія ўступіла ў Сусветную гандлёвую асацыяцыю і была вымушаная зменшыць мыты на імпарт тавараў. Услед за гэтым пошліны зменшылі і астатнія краіны Мытнага саюза — Беларусь і Казахстан. Беларускія імпарцёры мясных і малочных прадуктаў, садавіны, адзення, тэхнікі будуць плаціць за тавары менш, але наўрад ці зменшаць цэны для спажыўцоў.

**Мясніковіч адкрыў вытворчасць падгузнікаў**

Вытворчасць у Магілёве арганізавала замежнае прадпрыемства «БелЭмса». За год будзе выпускацца 112 мільёнаў падгузнікаў, 80% з якіх мяркуецца прадаваць у Расіі. Будаўніцтва прадпрыемства каштавала інвестару 4 мільёны еўра.

**З 1 верасня даражэюць цыгарэты**

Павялічваюць цэны і дзяржаўная Гродзенская тытунёвая фабрыка «Нёман», і «Тытунь-Інвест». Танныя цыгарэты не падаражэлі, а за дарагія давядзецца плаціць на 3-6% больш.

**«Беларусбанк» пачне працаваць з карткамі American Express**

Цяпер замежнікі, якія валодаюць такія карткамі, змогуць расплаціцца больш чым у палове крамаў Беларусі.

**ЯМ**

# Зянон Пазняк выдаў «Добрую фатаграфію»

У кніжнай серыі «Гарадзенская Бібліятэка» пабачыла свет новая кніга Зянона Пазняка — «Добрая фатаграфія». Кніга складаецца з 56 эсэ на 239 старонках пра фатаграфіі ад сярэдзіны XIX ст. да нашых дзён. У гэтай кнізе Пазняк выступае як праваднік у свет прыгожага.

«Добрая фатаграфія» — кніга вельмі інтымная. Пазняк адкрывае ёй частку сябе, сваёй натуры. Гэта кніга для тых, каму цікава глянуць на свет і Беларусь у ім вачыма Зянона.

«Добрая фатаграфія» таксама ёсць своеасаблівым фотападручнікам па гісторыі Заходняй цывілізацыі, якой Зянон надае сваё, уласнае тлумачэнне. Гэта кніга, дзе жывуць побач Кастусь Каліноўскі і Жаклін Кэнэдзі, Васіль Быкаў і каралева Лізавета II, Рыгор Барадулін і Одры Хэпбёрн. На гэтых здымках каханне і здрада, перамогі і паразы, смерць і надзея, маладушша і геройства, наша Радзіма, якой была і якой ёсць.

«Добрая фатаграфія» — таксама кніга, дзе Зянон Пазняк дае ацэнку працам сучасных беларускіх фатографаў і журналістаў: Сяргея Грыца, Уладзіміра Кармілкіна, Антона Матолькі, Андрэя Лянкевіча, Васіля Фядосенкі, Віктара Драчова, Глеба Лабадзенкі, Сяргея Шапрана ды многіх іншых.

На старонках кнігі «Добрая фатаграфія» Зянон Пазняк піша: «Да пачатку палітычнай дзейнасці ў мяне сабралася каля 50 тысячаў негатываў. Некалькі кніг па мастацтве і культуры (у рукапісах і чарнавіках), матэрыялы (якія, мяркую, ужо загінулі) па археалагічных раскопках Мінска і мястэчак. Тое, што засталося, зразумела, хутчэй за ўсё таксама загіне (а што не загіне — знішчаць). У нашым грамадстве гэта звыклая справа пры ўсіх рэжымах і акупацыях. Да знішчэння культуры і даробку жыцця трэба быць псіхалагічна падрыхтаваным, бо перманентная вайна з ардой ідзе ўжо не на межах, яна ўнутры нас саміх з таго часу, як упусцілі вандроўнікаў у свой дом.

Ці шкада страціць творчы набытак сваёй працы? Шкада, вядома, але прымаю як лёс, бо 20 гадоў таму быў зроблены выбар жыцця — за незалежнасць. З'явіўся шанец. І яго трэба было скарыстаць. Займацца палітычнай барацьбой, змагацца з камунамаскоўшчынай і заставацца ў навуцы, у археалогіі, у мастацтве, у творчасці — было немагчыма. Тут альбо-альбо. Напісаныя і падрыхтаваныя кнігі, манаграфіі, даследаванні, фатаграфіі, вершы, творчасць — усё было кінута, не азіраючыся, безаглядна. Бо калі б азірнуўся — ператварыўся б у «салевы слуп».

ПМ




**Фотазагадка**

## Колькі грыбоў вы бачыце на здымку?

**Грыбная тэма на поўную моц загучала ў беларускіх лясах.**


АЛЕСЬ ГІЗУН, INTEX-PRESS

Правільны адказ: 6.

## Журналістам паказалі пашпарт Лукашэнкі

А ў ім — **суцэльныя загадкі**.

Журналіст Уладзімір Чудзянцоў апублікаваў у сваім блогу ў Facebook фатаграфію дыпламатычнага пашпарта Аляксандра Лукашэнкі. Здымак быў зроблены ў часе экскурсіі ў новаадкрыты Музей беларускай дзяржаўнасці.

«Гэта менавіта дыпламатычны пашпарт Лукашэнкі. Пасля таго як ён стаў нядзейным паводле тэрміну дзеяння, яго перадалі ў музей», — адзначыў журналіст.

Гэты пашпарт выдалі ў 1997 годзе. Тэрмін яго дзеяння скончыўся ў 2002-м.

Пры гэтым транскрыпцыя імя і прозвішча Лукашэнкі пададзена з расейскай мовы, хоць імя па правілах транскрыпцыі павінна быць з нацыянальнай, беларускай мовы.

Месцам нараджэння Аляксандра Лукашэнкі ўказаны Магілёў, хоць нарадзіўся ён у пасёлку Копысь Аршанскага раёна Віцебскай вобласці.

Дата нараджэння — 30 жніўня 1954 года. Але пазней у якасці дня нараджэння стаў указвацца дзень 31 жніўня.

Нарэшце, адсутнічае абавязковы для ўсіх асабісты нумар.

СГ



**Рэкамендуем**

## Лукашэнка vs Брэжнеў: пры кім лепей жылося?

Кіраўнік СССР Леанід Брэжнеў прабыў ва ўладзе роўна 18 гадоў і 28 дзён (14.10.1964 — 10.11.1982). Лукашэнка нядаўна пабіў гэты «рэкорд»(20.07.1994). Што думаюць беларусы пра жыццё тады і сёння? Відэаапытанка «НН» — глядзіце на nn.by.

## Суд Вільні стаў на абарону Пефціева

Рашэнне пра замарозку яго рахункаў адменена. «Адносіны з Беларуссю могуць яшчэ раз скандальна праславіць Літву ў ЕС. Гэтым разам беларускі рэжым абыграў Літву ў яе ўласным судзе», піша Lietuvos rytas. У.Пефціеў, якога лічаць адным з самых багатых людзей Беларусі, прасіў скасаваць рашэнне МЗС Літвы, якое дазваляе замарозіць яго асабістыя рахункі ў еўрапейскіх банках.

Гэта — частка эканамічных санкцый Еўрасаюза. Аднак літоўскаму суду яны здаліся неабгрунтаванымі.

У адрозненне ад Беларусі, суд у Літве незалежны ад выканаўчай улады.

МБ



**In memoriam**

## Алесь Петрашкевіч

Ягоныя гістарычныя драмы не так для пастановак, як для чытання. Зрэшты, чаму б і не паставіць іх? Трэба толькі, каб на Петрашкевіча знайшоўся свой Мікалай Пінігін. Здолеў жа Пінігін з амаль несцэнічных «Тутэйшых» зрабіць тэатральны шэдэўр...

Так і хочацца напісаць пра той выдатны акцёрскі ансамбль. І са скрухай уздыхнуць: няма ўжо ні Юры Авяр'янава, ні Валодзі Кінь Камінскага, ні Валерыя Філатава...

І тут. Адзін за адным адыходзяць энцыклапедысты. Віталь Скалабан, Янка Саламевіч... Вось і Алесь Петрашкевіч падаўся за імі.

Алесь Лявонавіч вельмі хацеў, каб выйшаў энцыклапедычны даведнік «Беларуская Народная Рэспубліка». Ён даў мне метадычкі для рэдактараў і – Божухна! – слоўнік Энцыклапедыі гісторыі Беларусі. Той, надрукаваны на ратапрынце ў 1989 г., з якога і пачалася праца над ЭГБ. Слоўнік — як узор, падказка для рубрыкацыі артыкулаў будучага даведніка «БНР».

Памятаю і тую апошнюю нашу размову. Бо перад гэтым Алесь Лявонавіч апісаў (здаецца, у «Народнай волі»), як ён ляжаў у лечкамісіі і як разыграў ды выклікаў на шчырасць аднаго супалатніка з гістапартычкаў. Мяне ў той публікацыі рассмяшыў менавіта розыгрыш. Усё ж трэба хоць трохі быць тэатральным чалавекам, каб зрабіць такое. І ведаць псіхалогію бальшавіцкіх мастадонтаў. У размове са мною Алесь Лявонавіч дадаў яшчэ некаторыя дэталі.

Вось так, пасмяяўшыся і з аптымістычным настроем, мы развіталіся да наступнай сустрэчы... Ды не сустрэліся, бо Алеся Лявонавіча звалiла страшная хвароба. Мабыць, сустрэнемся ТАМ.

Знаўцы, вэтэраны Энцыклапедыі сыходзяць...

Занясу метадычкі і слоўнік ЭГБ у архіў.

**Анатоль Сідарэвіч**

Драматург Алесь Петрашкевіч быў аўтарам п'есы «Напісанае застаецца» і суаўтарам сцэнара серыяла «Час выбраў нас». Развітанне з ім прайшло ў зале цырымоній лечкамісіі 26 жніўня. Алесь Петрашкевіч нарадзіўся 1 мая 1930 у вёсцы Пярэвалачня Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Кандыдат гістарычных навук (1967), заслужаны работнік культуры Беларусі (1975), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976) за ўдзел у падрыхтоўцы і выданні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

Усе гады ціску на «Нашу Ніву» ён быў падпісчыкам газеты і заставаўся ім да апошніх дзён.

# Сынам было два і сем гадоў

У Мінску журналістка выкінулася **з акна** з двума дзецьмі.

Гэта адбылося 23 жніўня ў мінскім раёне Сухарава, на захадзе Мінска. Някепскі квартал — людзі тут пераважна будавалі сабе дамы за ўласныя грошы. Ёсць і ведамасныя. Адзін такі, на вуліцы Панчанкі, называюць «журналісцкім». Кватэры ў ім атрымалі супрацоўнікі лукашэнкаўскіх СМІ. Жыла тут і Мілена Ануфрыёнак (на фота), што працавала ў інфармацыйным агенцтве БелТА. Калі дакладней, Мілена была ў адпачынку па доглядзе за дзіцём. Сваім другім сынам.

«Калі гэта ўсё адбылося, я на кухні абед гатавала, — расказала суседка Мілены «Комсомольской правде». — У мяне былі расчыненыя вокны, і я пачула якісьці дзіцячы крык. Але ніякіх енкаў, ніякіх крыкаў «ратуйце!»

Мілена была даволі скрытная. Мы часта разам гулялі на дзіцячай пляцоўцы, яна ўсміхалася, віталася, але заўжды нібыта ўбаку была. Ніколі не расказвала ні аб праблемах, ні пра мужа. Па адзенні было заўважна, што сям'я жыла сціпла. Мілена касметыкай не карысталася, сама някідка апраналася, але дзеці заўсёды былі добра адзетыя, цацкі ў іх былі добрыя. Вось, дарэчы, хлопчыкі, у адрозненне ад мамы, былі гаманкімі! Нядаўна адзін расказваў, што ў таты скралі кашалёк і яны засталіся без грошай».

Прычыны здарэння ў Следчым камітэце (СК) не могуць назваць. Але кажуць, што інфармацыя пра імаверны развод не мае пад сабой падставаў. Як паведаміў прадстаўнік СК па Мінску Аляксандр Герасімаў, сям'я была нармальнай, хоць і замкнёнай. Муж увесь час на працы быў, цешча пра яго адгукаецца добра.

Герасімаў паведаміў, што адшукаць відавочцаў трагедыі так і не ўдалося. Быў апытаны ўвесь квартал. І таму Следчы камітэт просіць людзей, якія нешта ведаюць пра трагедыю, патэлефанаваць у міліцыю.



Цяпер вывучаюцца запісы на камп'ютары Мілены. Увагу людзей звярнула тое, што на яе старонцы ў адной сацыяльнай сетцы былі выстаўлены матэрыялы пра змаганне з неўрозам. На гэтым тыдні адбудзецца пашыранае пасяджэнне па крымінальнай справе, на якое запрошаны псіхіятры і псіхолагі.

Светлым чалавекам запомніў жанчыну яе аднакласнік, сцэнарыст Андрэй Курэйчык. Ён два гады правучыўся з ёй у ліцэйскім класе. «Была чалавекам добрага настрою — заўсёды ўсміхалася. Яна выдатніцай была, лідарам класа ў спорце». Тады Курэйчык спрабаваў заляцацца да Мілены. Запрашаў яе ў тэатр — на оперу. Але не сышліся.

Пасля выпускнога балю клас сабраўся ў поўным складзе толькі раз ці два.

Крымінальная справа пакуль што заведзена па ч. 2 арт. 139 КК (забойства).

**Сяргей Макарэвіч**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Да пераводу ў Віцебск Леанід Кавалёў працаваў першым сакратаром ЦК БРСМ.

# Хто сказаў «кладзі сюды»

Пракурор патрабуе пакараць былога кіраўніка БРСМ **сямю гадамі калоніі.**

Пра што ў апошнім слове сказаў Гунар Каал, было не разабраць. Літаральна адзін сказ нейкі. І перакладчыца агучыла яго ціха.

А былы кіраўнік БРСМ Леанід Кавалёў прамаўляў спакойна, выразна. Паміж словамі рабіў паўзы. Ён звярнуў увагу, што быў у Эстоніі ў камандзіроўцы, дзе бачыўся з Каалам. І калі была б дамоўленасць пра хабар, то лепшага месца для перадачы грошай нельга і знайсці.

### Працэс працягласцю ў год

У Мінскім гарадскім судзе падышоў да фіналу працэс эксnamесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама Леаніда Кавалёва. Суд пачаўся яшчэ летась, але толькі 23 жніўня адбылося апошняе пасяджэнне: бакі выступілі ў спрэчках, абвінавачаныя — з апошнім словам. 31-га адбудзецца вынясенне прысуду.

Кавалёў абвінавачваецца ў атрыманні хабару (ч.3 арт. 430 КК). Па гэтай справе праходзіць і эстонскі прадпрымальнік Гунар Каал. Яму інкрымінуюць два артыкулы: атрыманне хабару і суўдзел у злачынстве (ч.6 арт. 16 КК). Паводле следства, Каал перадаў Кавалёву хабар 2500 еўра.

### «Дзякуй» і «кладзі сюды»

Згодна з абвінавачваннем, Гунар Каал вымагаў хабар у дырэктара фірмы, каб перадаць грошы чыноўніку ў аблвыканкам. Выступаючы ў ролі пасярэдніка, эстонец дапамагаў бізнэсоўцу атрымаць выключнае права на арганізацыю феерверкаў на масавых мерапрыемствах Віцебшчыны. Каал адмаўляе свой інтарэс у гэтай справе. Адметна, што эстонец у Віцебску планаваў інвеставаць сродкі ў шэраг праектаў (пра будаўніцтва SPA-гатэля нават падпісалі дамову).

Кавалёў на першых допытах прызнаў, што ведаў пра грошы, якія яму прызначаліся. Але пасля паказанні змяніў на супрацьлеглыя. Маўляў, следчы параіў яму прызнаць віну, каб меру стрымання замянілі з арышту на падпіску аб нявыездзе. І калі гэтага не адбылося, то сказаў праўду.

Затрыманне Кавалёва адбывалася пад наглядам КДБ. Незадоўга да гэтага бізнэсовец звярнуўся ў спецслужбу з заявай пра вымаганне ў яго хабару. Спачатку затрымалі Гунара, калі яму перадаваў грошы дырэктар фірмы. Эстонец пагадзіўся на супрацоўніцтва. І калі ён пакідаў у аўтамабілі Кавалёва валюту, вёўся аўдые- і відэазапіс. Па словах пракурора, на запісах чуваць словы «дзякуй» і «кладзі сюды», сказаныя шэптам.

### Гаварылі пра сельскую гаспадарку

Абаронца Каала лічыць, што эстонец не дзейнічаў у інтарэсах былога эксгубернатара. А перадачу грошай пад кантролем КДБ нельга лічыць злачынствам. Таму па прад'яўленых абвінавачваннях яго трэба апраўдаць і вызваліць.

Адвакат Кавалёва таксама просіць вызваліць свайго падабароннага і мае сваю версію таго, што адбылося ў Віцебску. Гунар Каал мог застрашыць дырэктара фірмы магчымымі праблемамі ў працы, калі той не заплаціць Кавалёву. Але грошы не збіраўся нікому перадаваць, бо меркаваў пакінуць іх сабе. А па аператыўных запісах эксперты не змаглі ўстанавіць, каму належаць словы «кладзі сюды». Абаронца настойвае, што Кавалёў вёў размову ў аўто пра сельскую гаспадарку (эстонец нават прысутнічаў на адной з нарадаў у Кавалёва па гэтых пытаннях), для чаго ўзяў з сабой на сустрэчу супрацоўніка з гэтай галіны. Але ў нейкі момант той выйшаў з машыны і стаў з боку кіроўцы. У выніку Кавалёў размаўляў з двума мужчынамі, паварочваючыся па чарзе да іх. І проста не бачыў, як Каал паклаў грошы ў чахол на сядзенні.

### 12 гадоў на двух

Пракурор запрасіў для Леаніда Кавалёва 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Для Каала Гунара — 5 гадоў з канфіскацыяй.

**Кастусь Матушыч**

## Сціслa

### Разбіліся, гонячыся за парушальнікам

Гэта здарылася падчас пагоні за парушальнікам у Мінску. Інспектар у «Ладзе Прыёры» не даў рады кіраванню, і аўтамабіль урэзаўся ў асвятляльную мачту. Кіроўца і яшчэ адзін інспектар у салоне аўтамабіля атрымалі сур'ёзныя траўмы. Парушальніка ў выніку затрымалі.

### Кіроўца, якога штрафавалі 81 раз, загінуў у аварыі

23 жніўня пад Гомелем кіроўца Audi выехаў на сустрэчную паласу і пратараніў Volkswagen. Кіроўцы загінулі, пасажыр Audi трапіў у рэанімацыю. Кіроўца Audi 81 раз прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнні ПДР. У яго двойчы забіралі правы, але нягоднік не сунімаўся.

### Зарэзалі касірку

24 жніўня ў Маладзечне мужчына напаў на касірку букмекерскай канторы. Ён ударыў нажом жанчыну, якая прымала стаўкі на спорт, і збег з грашыма. Касірка загінула ад страты крыві. Па падазрэнні ў забойстве затрыманы 24-гадовы мужчына.

### Пашкадаваў курыцу і ўрэзаўся ў слуп

18-гадовы кіроўца на Audi трапіў у аварыю ў вёсцы Буцілы Лідскага раёна. Ён узяў лявей, каб аб'ехаць курыцу, але ўрэзаўся ў слуп. У аварыі пацярпела яго сястра. Малады чалавек атрымаў пасведчанне кіроўцы зусім нядаўна.

### Боні і Клайд па-беларуску

Вучань 3-га класа і вучаніца 2-га класа Забалацкай сярэдняй школы (Жыткавіцкі раён) у ноч на 24 жніўня праніклі ў краму ў вёсцы Ляскавічы. Дзеці вынеслі тавар і грошы на 7 млн рублёў. Сігналізацыя не спрацавала, бо была няспраўная.

### У «Данькаў-клубе» займаліся прастытуцыяй?

Следчы камітэт завёў справы на адміністратара і мастацкага кіраўніка мінскага Dankoff Club. Іх падазраюць у тым, што з 2006 і па сённяшні дзень яны прадстаўлялі памяшканні для заняткаў прастытуцыяй.

**СП**

# **Паскаль Мендзі:** Мяне назвалі чорнай малпай

У футбольным чэмпіянаце Беларусі разгараецца **расісцкі скандал**.


GOALS.BY

Паўабаронца жодзінскага «Тарпеда» сенегалец Паскаль Мендзі пасля гульні з салігорскім «Шахцёрам» пайшоў у бойку з Аляксеем Рыёсам, за што атрымаў чырвоную картку.

Паводле Мендзі, усё пачалося раней, калі нападаючы «Шахцёра» Дзмітрый Камароўскі адштурхнуў руку афрыканца і сказаў: «Не чапай мяне, чорная малпа!»

«Я спакойна сыходзіў з поля, як раптам да мяне падбеглі Камароўскі і Рыёс. Абодва сталі здзекавацца з мяне: «Ну што, чорны, вы прайгралі сёння», — кажа Мендзі.

Сенегалец прызнаўся, што «пасля матча сядзеў і плакаў у раздзявальні, як дзіця». «Мне вельмі крыўдна, што такія выпадкі маюць месца ў футболе», — заявіў ён.

У сваю чаргу, футбалісты «Шахцёра» ўсяляк адмаўляюцца ад расісцкіх выказванняў і сцвярджаюць, што Мендзі ўсё выдумаў.

«Мы — не расісты. Мы — нармальныя людзі», — сказаў Аляксей Рыёс у інтэрв’ю goals.by.

Дарэчы, Аляксей Рыёс — напалову перуанец. Яго бацька жыве ў Перу, дзе ў футбаліста ёсць зводны брат.

**Алег Гардзіенка**

**Фотафакт**



ЗМІЦЕР ПАНКАВЕЦ

**Люксембурга не існуе? Такая карта размешчаная на «Маскоўскім» аўтавакзале сталіцы. Няма на ёй Люксембурга і Ліхтэнштэйна, затое ёсць шэраг арфаграфічных памылак.**

# Памёр першы чалавек, што ступіў на Месяц

Нілу Армстрангу было **82 гады**.

У пачатку жніўня Ніл Армстранг перанёс аперацыю на каранарных артэрыях, яна дала пэўныя ўскладненні.

Армстранг стаў вядомым свету 20 ліпеня 1969. Ён быў першым чалавекам, што ступіў на Месяц. Разам з напарнікам Эдвінам Олдрынам яны правялі на спадарожніку Зямлі больш за дзве гадзіны. Менавіта Армстрангу належыць фраза: «Гэта быў маленькі крок для чалавека, але гіганцкі скачок для чалавецтва».



Армстранг нарадзіўся 5 жніўня 1930 у штаце Агаё (дарэчы, пасля Другой сусветнай у гэтым штаце асела шмат беларусаў). Ніл вывучыў авіяцыйную прамысловасць ва ўніверсітэце Перд’ю (Індыяна). Навучанне аплочвала дзяржава. У абмен хлопец паабяцаў пайсці на тры гады ў войска. Удзельнічаў у карэйскай вайне. Меў баявыя ўзнагароды.

Першы касмічны палёт Армстранг здзейсніў у сакавіку 1966. Праз тры гады ён узначаліў гістарычны экіпаж «Апалона-11».

Скептыкі па сёння спрачаюцца, ці быў ён насамрэч на Месяцы.

Дарэчы, у адным з інтэрв’ю Армстранг сказаў: «Астранаўты не паміраюць па суботах. Прынамсі, я не ведаю ніводнага выпадку». Нават тут ён быў першым.

**ЗП**

# Беларус выйграў у покер мільён еўра



**Мікалай Побаль** перамог у картачным турніры ў Барселоне.

Беларус пераадолеў рэкорднае для турніру поле ў 1.082 гульцы, паведамляе сайт championat.com. Самым складаным было супрацьстаянне двум фінам, з якімі Побаль правёў некалькі гадзін за гульнёй 3-max.

У барацьбе за галоўны прыз выйгрыш беларуса склаў 1.007.550 еўра. Мікалай Побаль скончыў Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт, спецыяльнасць «Міжнародная эканоміка».

**ЛМ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# PUSSYянарыі, альбо Не дазваляецца. І ўсё...

Апошнім часам да ўсіх вядомых свету рэвалюцый дадалася яшчэ адна: рэвалюцыя Pussy Riot. Ну, можа, паўтары, калі ўзгадаць Femen. Нехта, магчыма, дадасць яшчэ сэксуальную рэвалюцыю. Але без сэксуальнай рэвалюцыі не абыходзілася аніводная іншая. Больш за тое: менавіта сэксуальныя рэвалюцыі стваралі калі не глебу для сацыяльных рэвалюцый, то іх палкі дух і самаахвярны пакутлівы вобраз. Дастаткова нагадаць знакамітую карціну Дэлакруа «Свабода на барыкадах»...

Ёсць сэнс параўнаць той вобраз Свабоды з вобразам Pussy Riot альбо Femen, каб пераканацца ў тым, што сучасныя рэвалюцыі спеюць, да прыкладу, не на жабрацкіх сялянскіх палетках, а ў бардэлях, не ў галовах і сэрцах, а ў месцы, сціпла прыхаваным за іншаземным тэрмінам «pussy»...

Я, вядома, рызыкую наклікаць на сябе гнеў абаронцаў панкгурта, калі выкажу думку з тых, ад якіх, па выразе адной з чытачак «НН», «патыхае сумнай саўковасцю». Але выкажу: у любога нармальнага, падкрэсліваю, нармальнага, не толькі веруючага чалавека так званая пратэстная акцыя Pussy Riot выклікае пачуццё мярзотнасці, пра якое чамусьці не прынята гаварыць услых. Не меншае за пачуццё мярзотнасці, якое выклікае расправа ўлады над маладымі жанчынамі.

Адна справа — Pussy Riot, іншая — маладыя жанчыны, некаторыя з дзецьмі. І магутная, у поўным абмундзіраванні, улада, якая пад выглядам абароны законнасці і парадку дэманструе перад усім светам сваю прагу дробнай помсты.

Здаецца, я ведаю, адкуль гэта прага: ад прыўлашчанай манаполіі на амаральнасць, маўляў, толькі я, улада, маю права на бескультурнасць, хлусню, цынізм і духоўнае цемрашальства.

Чаму, адкажыце, можна грамыхаць танкамі на могілках пад назвай Красная плошча і нельга вычварацца ў царкве?!

Чаму, адкажыце, можна ўслых абражаць не толькі кіраўнікоў тых ці іншых краін, але і самі краіны накшталт «казёл» альбо «мала не падасца», і нельга звяртацца да Багародзіцы ад імя pussy?!

Чаму, адкажыце, можна карыстацца двудушшам царкоўных іерархаў, каб не згубіць уладу, і нельга карыстацца амбонам, каб гэту ўладу адаслаць куды падалей?!

Чаму «дазваляецца ўсё» ўладзе і не «дазваляецца ўсё» прыватным асобам, асабліва калі яны аб’ядноўваюцца ці то ў апазіцыйныя партыі, ці то ў грамадскія няўрадавыя арганізацыі, ці то ў панк-гурты?

Але амаральнасць улады не павінна апраўдваць амаральнасць прыватных асоб.

Падсудныя з Pussy Riot настойвалі на тым, што яны здзейснілі не хуліганскую, а палітычную акцыю, хаця дапусцілі «этычную памылку». Але «этычна памылковыя»,

## Амаральнасць улады не павінна апраўдваць амаральнасць прыватных асоб »

амаральныя ўчынкі як сродкі палітычнага пратэсту толькі садзейнічаюць умацаванню амаральнай улады, пакідаючы грамадству адзіны сродак яе змены — крывавы і бязлітасны Riot. У перакладзе — бунт. Бяскрыўдны, па сутнасці, для ўлады Riot «дзевачак», маўляў, усяго толькі шоу, насамрэч адлюстроўвае гэту тэндэнцыю, па-сучаснаму гаворачы, трэнд.

Між тым, змены аўтарытарных рэжымаў на дэмакратычныя выспяваюць паступова і адбываюцца пад ціскам грамадства, якое яднаецца па прынцыпах высокай маралі. Брытанская Індыя і Махатма Гандзі, Чэхаславакія і Вацлаў Гавал, Савецкі Саюз і Андрэй Сахараў...

Калі падобныя змены ў рэшце рэшт адбудуцца ў Беларусі, то побач з паўстане імя Васіля Быкава...

Я пішу гэтыя нататкі 25 жніўня, дзень у дзень праз 44 гады пасля сапраўды мужнага ўчынку сямі дысідэнтаў, якія разгарнулі на Лобным месцы плакаты супраць уводу савецкіх войскаў у Чэхаславакію. Іх жорстка збілі, кінулі ў турмы і псіхлякарні, але іх уплыў на грамадства, іх мужнасць, на той час у адзіноце, іх маральная перавага над Крамлём мелі хай сабе аддаленыя, але непераадольныя палітычныя наступствы.

Я не ведаю, як называць Лобнае месца пасля таго, як на ім, не толькі ў саборы, вар’яцелі pussy... Але наступствы відавочныя: з аднаго боку вандалізм у якасці дэманстрацыйнай салідарнасці ды небяспечны заклік ствараць дружыны ў абарону праваслаўных сімвалаў і святынь, з іншага — сумнеў у маральнасці ліберальнай апазіцыі пуцінскаму рэжыму. А можа, спіленыя з цяжкой рукі Femen крыжы ў розных месцах Расіі — супраціў цемрашальству і сучаснаму клерыкалізму? Не, не бачу розніцы паміж вандаламі з Femen і вандаламі на могілках Курапат...

Але ёсць наступствы і малавідавочныя.

Пасіянарыя ў перакладзе з іспанскай — палкая жанчына.

Пасіянарнасць — увогуле палітычны сінонім палкай рэвалюцыйнасці. Пры ўсім захапленні яе прыкладамі менавіта яна даводзіць у рэшце рэшт да гулагаў і руйнавання храмаў. Нават калі хавае твар і выстаўляе напаказ pussy...

Не, усё ж не ўсё дазваляецца.

Не ўсё.

# Топ-10 найкруцейшых школаў Беларусі


Ліцэй БДУ.

Фактычна адмовіўшыся ад профільнага навучання, улады паспрабавалі ўніфікаваць беларускія школы. З адменай вясковых ільготаў выпускнікі сельскіх школаў і сталічных гімназій канчаткова будуць стаяць перад цэнтралізаваным тэставаннем у роўных умовах.

Але багатыя бацькі ўсё адно шукаюць для сваіх дзяцей найлепшае месца навучання, хоць крытэры ў кожнага свае. Для кагосьці патрэбная добрая статыстыка паступленняў у ВНУ школьных выпускнікоў, камусьці важныя добрыя водгукі калегаў, а хтосьці з дапамогай дзяцей шукае для сябе новыя карысныя знаёмствы.

Якія беларускія школы можна называць элітнымі? «Наша Ніва» склала топ-10 прэстыжных навучальных установаў краіны.

## 1. Ліцэй БДУ

Выпускнікі гэтай навучальнай установы, якая знаходзіцца ў цэнтры Мінска, маюць найлепшы працэнт паступлення ў ВНУ сярод беларускіх школ і гімназій. Больш за 95% ліцэістаў паспяхова здаюць экзамены ў беларускія і замежныя ўніверсітэты.

У ліцэі вучацца толькі 10- і 11-класнікі, падчас паступлення яны праходзяць складаны адбор. Напрыклад, апошнія два гады конкурс складаў 6,4-7 чалавек на месца.

Каля 500 ліцэістаў вучацца на фізіка-матэматычным, хіміка-біялагічным, філалагічным і грамадазнаўчым профілях. У навучальную ўстанову прымаюць як мінчукоў, так і жыхароў іншых гарадоў. Такіх каля чвэрці дзяцей, для іх выдзеленыя месцы ў інтэрнаце.

Сярод «зорных» бацькоў ліцэістаў можна назваць памочніцу Лукашэнкі Наталлю Пяткевіч. Яе сын паступіў у ліцэй сёлета.

## 2. Коласаўскі ліцэй

Легендарная ўстанова працягвае дзейнасць. Дзеці вучацца па беларускіх і польскіх праграмах адначасова і атрымліваюць польскія атэстаты як беларускамоўны ліцэй у горадзе Гданьску. Навучанне вядзецца цалкам па-беларуску. Сярод педагогаў — многія легендарныя асобы. А само навучанне мае флёр выкліку існаму ладу. Падбор дзяцей — выдатны.


Былы Коласаўскі ліцэй.

## 3-4. Гімназіі №4 і №23 Мінска

Гэта дзве самыя прэстыжныя беларускамоўныя гімназіі. Іх найбольш вылучае склад навучэнцаў. Як і ва ўсіх гімназіях, тут вучацца і дзеці з мясцовага квартала, і дзеці з іншых раёнаў. Вось толькі ў беларускамоўныя гімназіі дзяцей абы-хто не аддае. Тут знойдзеш і дзяцей дырэктара буйнога акцыянернага таварыства, і сына вядомага хірурга, і дзяцей з радзін работніка пракуратуры, і вядомых інтэлектуалаў ад Лявона Вольскага да Валера Булгакава. Але ўсе гэтыя сем'і лучыць наяўнасць пэўнага прынцыпу — хутчэй жыццёвага, чым палітычнага. Адпаведна, і дзеці тут хоць і звычайна-розныя, усё ж зазвычай несярэднія і больш зычлівыя за сярэднемінскіх. Адпаведна, і паспяховасць тут высокая, і статыстыка паступленняў. Дый настаўнікі ў гэтых гімназіях гуртуюцца трохі іншыя, чым звычайна. А гэта істотна ў наш час, калі якасць педагагічнага персаналу стала галоўнай праблемай.

Гімназія №4 месціцца на захадзе, а №23 — у цэнтры сталіцы. У першай штогод набіраюць 5 класаў, а ўхіл — фізіка-матэматычны, ёсць магчымасць займацца ў школе тэнісам. Другая гімназія — амаль камерная, там набіраюць усяго два класы, адзін з англійскай, другі — з кітайскай мовай як замежнай.


Гімназія №23.

Сяргей Гудзілін

## 5. Школа ў Астрашыцкім гарадку

«Школа для Колі» — народная назва навучальнай установы ў



аграгарадку пад Мінскам. Школа ў Астрашыцкім гарадку перажыла дзве рэканструкцыі за два гады і ў выніку летась выйграла «конкурс» на права залічыць у першы клас Мікалая Лукашэнку.

Падчас навучальнага года ўсе падыходы да трохпавярховай навучальнай установы кантралююцца міліцэйскімі патрулямі, затое ўлетку можна разглядзець інфраструктуру вясковай школы — басейн, гумаванае футбольнае поле з трыбунамі... Зрэшты, унутры ўсё таксама абстаўлена па апошнім слове тэхнікі.

У школе вучацца і звычайныя дзеці з Астрашыцкага гарадка. Для іх выпадковае суседства з Колем — добры шанец атрымаць веды ў настаўнікаў вышэйшай катэгорыі.

## 6. Школа ў Тамашоўцы


**Тагачасны старшыня Нацбанка Пракаповіч і губернатар Брэстчыны Канстанцін Сумар адкрываюць футбольнае поле ў Тамашоўцы. Школа на заднім плане.**

Яшчэ адна «рэгіянальная» навучальная ўстанова знаходзіцца ў паўднёва-заходнім куце Беларусі. Ад Брэста да Тамашоўкі, вотчыны прэзідэнцкага дарадцы Пятра Пракаповіча, каля 70 кіламетраў. Славуты выпускнік школы ўзяў пад патранаж Нацбанка Беларусі ўвесь аграгарадок.

Маштабная рэканструкцыя ў сярэдзіне 2000-х зрабіла школу адной з найлепшых у вобласці. Асноўны ўхіл тут спартовы. Тэнісныя корты, футбольнае поле, хакейная пляцоўка, сектар для кіданняў і нават лыжаролерная траса — няпоўны спіс школьнай інфраструктуры.

## 7. Гімназія №16 у Вяснянцы



Гімназія займае два будынкі на вуліцы Лесі Украінкі, якія знаходзяцца на адлегласці 300 метраў адзін ад аднаго. Найлепшымі ўмовамі навучання славіцца пачатковая школа. У першую чаргу ў яе прымаюцца жыхары бліжэйшых вуліц. На пытанні прыёму «па-за чаргой» у 2006 пагарэў дырэктар гімназіі Алег Бадалаў. За атрыманне хабару ён быў асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй маёмасці.

Дзеці багатых бацькоў тут вучыліся здаўна. Менавіта ў Вяснянцы прагучаў першы званок для ўнучак Аляксандра Лукашэнкі. Ёсць у гімназіі і дзеці іншых уплывовых бацькоў — вучыўся сын кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэя Кабякова, нібыта бачылі на занятках дачку экс-прэзідэнта Кыргызстана Курманбека Бакіева.

Гімназія мае эстэтычны ўхіл і спецыялізуецца на навучанні замежным мовам. Асаблівы гонар кіраўніцтва — спартыўны корпус з тэнісным кортам і басейнам на пяць дарожак, адкрыты летась.

## 8. Школа №42 у Каменнай горцы



Звычайная сярэдняя школа ў спальным раёне Мінска пакуль не мае запамінальнай гісторыі і прэстыжных выпускнікоў. Аднак яе варта адзначыць як самую новую школу сталіцы — на яе партах не надрапана яшчэ ніводнага непрыстойнага слова і не разбіта ніводнага акна. Па ўзроўні тэхнічнага абсталявання яна дасць фору многім ліцэям і гімназіям краіны.

Бібліятэка з кабінкамі для індывідуальнага чытання, вітамінны бар у сталовай, чатыры спартыўныя залы, пляцоўкі з антытраўматычным пакрыццём — на ўсім гэтым было вырашана не эканоміць.

Ужо 1 верасня ў школу №42 прыйдзе 1200 школьнікаў са спальнага раёна, кватэры ў якім перадусім атрымлівалі шматдзетныя сем'і і супрацоўнікі сілавых структур.

## 9. Прыватная школа «Апельсін»



Элітныя закрытыя школы, папулярныя на Захадзе, не здабылі шырокага распаўсюду ў Беларусі. Дзяржаўная бясплатная адукацыя дае які-ніякі ўзровень ведаў, каб выбіцца ў людзі і без дадатковай платы за вучобу. Зрэшты, некалькі прыватных школ існуе. Навучанне ў іх каштуе $350—400 у месяц і карыстаецца попытам у бацькоў, якія хочуць індывідуальнага навучання сваіх дзяцей.

Сярод канкурэнтаў можна выдзеліць прыватную школу «Апельсін». Па-першае, яна самая дарагая — $500 у месяц, гэта больш чым сярэдні заробак у краіне. Па-другое, знаходзіцца ў катэджы ў прыгарадзе Мінска, у Сенніцы, — фактычна, на свежым паветры. Па-трэцяе, «Апельсін» абмяжоўваецца нязвыклым для беларускай адукацыі ўзроставым дыяпазонам дзіцячага садка і пачатковай школы.

## 10. Прыватная школа «Трайпла»



Напрыканцы — самы амбітны праект, праўда, пакуль далёкі да завяршэння.

Да канца наступнага года кампанія «Трайпл» меркавала пабудаваць прыватную школу на 400 вучняў каля вадасховішча ДраздЫ непадалёку ад «Мінск-Арэны». Яркі вясёлкавы будынак будзе нагадваць вінт з трыма лопасцямі — пачатковая школа і сталовая, сярэдняя школа, а таксама спартыўная зона. У цэнтры ж апынуцца актавая зала, бібліятэка і зімовыя сады.

**Ягор Марціновіч**

# Падарожжа вакол

Два мінскія студэнты выправіліся ў кругасветнае падарожжа. І пачынаюць **серыю рэпартажаў** з дарогі ў «Нашай Ніве».

Мінскі студэнт другога курса кулінарнага тэхнікума Яўген Ціханаў разам з сябрам Раманам Свечнікавым выправіўся ў падарожжа вакол свету. Хлопцы плануюць ехаць праз Каўказ, трапіць у Іран, адтуль у Туркменістан або Індыю. Далей — Кітай, пасля Лаос, Аўстралія, В'етнам, Паўднёвая Амерыка, Мексіка. Адтуль — на заходняе ўзбярэжжа Афрыкі і назад праз Еўропу. Пры сабе падарожнікі маюць 500 даляраў, вандруюць аўтаспынам. З дарогі нам піша Яўген Ціханаў

Першым вялікім горадам на маім шляху была Масква. Палівальныя машыны мылі вуліцы, метро было заблытаным і бяздушным, а бясконцыя таджыкі разбудоўвалі яе — і ўглыб, і ўшыркі, і ў вышыню.

На Патрыяршых, ля ўвахода ў парк, дзе стаіць дарожны знак з сілуэтамі Воланда, Фагота і Бегемота і надпісам «не размаўляйце з незнаёмцамі», я пачуў ззаду: «Жыве Беларусь!». Гэта не Воланд прыйшоў па беларускія душы, проста беларусы Джэк і Маша заўважылі маю цішотку з Пагоняй.



Яўген Ціханаў

Як начаваць у буйных гарадах, дзе няма знаёмых? Трэба лезці на дах! Я пайшоў у бліжэйшы дзевяціпавярховік і паставіў на ім намёт. Вакол стаялі элітныя высоткі, жыхары якіх паказвалі на мяне пальцам; дзьмуў вецер, і я баяўся апынуцца ўнізе. Хоць жыхары віп-апартаментаў наўрад ці сталі б выклікаць паліцыю, ды і вецер не змог бы перакуліць намёт з сотняй кіляў усярэдзіне.

Расею я хацеў праскочыць як мага хутчэй, таму дарога да Грузіі была калейдаскопам машын і кіроўцаў. Вось малады вайсковец, што марыць працаваць у французскім Легіёне і мець уласны стралковы клуб. Вось дальнабойшчык, што займаецца ёгай, гатуе аўсяную кашу ў кабіне на газавай гарэлцы і чытае Кастанеду.




« Першае правіла — ніколі на давай грошай паліцыі

Цясніна Кадоры.

## «Замуцім утраіх»

Каўказ сустракае гасцінна. Між Пяцігорскам і Нальчыкам мяне падбірае грузнаваты мужчына гадоў пяцідзесяці. Пасля пытанняў агульнага характару ён цікавіцца, якіх памераў у мяне чэлес. «Аднойчы я пазнаёміўся з дальнабойшчыкам... ну мы і паспрабавалі», — кажа ён. Крыху маўчыць і працягвае: «Мне вельмі падабаецца мінет» — дадае ён. Не-не, я не хачу! Можа, мне лепей выйсці? Добра, паехалі, але больш — без прапановаў.

Ён частуе мяне персікамі, кла-дзе руку на маю нагу і пытае: ну мацаць хоць можна? Калі нават і кранаць нельга... Дарэчы, мы можам заехаць у Нальчык, прапануе ён. «Там у мяне ёсць сяброўка, і мы можам замуціць ўтраіх. Ну добра, добра, паехалі. Толькі паабяцай мне, што гэтае размовы не было. Абяцаеш?»

Абяцаю, канечне... толькі руку прыбяры.

## «Няма карупцыі»

За спінай Уладзікаўказ, апошняя кропка Расеі. Перада мной — дарога праз горы. Яшчэ тры крокі — і я ў Грузіі.

Пешаходнага перахода праз мяжу няма. «Пачакай», — кажа памежнік і ідзе да першай машыны. Штосьці кажа кіроўцу і махае мне рукой: «Сядай!»

Едзем праз перавал. Ледзь не вывальваюся з акна, здымаю. «Ай, гэта яшчэ не прыгажосць, — кажа кіроўца. — Далей будзе нашмат прыгажэй». Прыгажэй за гэта? Не ўкладаецца ў галаве.

Кіроўца вучыць мяне базавым прынцыпам жыцця ў Грузіі. «Першае правіла — ніколі на давай грошай паліцыі, сядзеш на 15 год. У нас няма карупцыі».

Выходжу на цэнтральную плошчу. «Гэй! Ты куды? — кліча мяне незнаёмы мужчына. — Да Тбілісі ехаць позна. Паехалі да мяне, паспіш і зранку паедзеш». У памяці ўзнікае «паехалі ў Нальчык, замуцім утраіх», таму адмаўляюся. Я ў Грузіі першую гадзіну і яшчэ не ведаю, што гасціннасць тут цалкам натуральная.



У Маскве стаўлю намёт на даху на Вараб'ёвых гарах.



Батумі.

Зранку да мяне звяртаецца прыбіральшчыца: «Гэта добра, што вы паставілі намёт каля паліцыі. Хаця ведаеце, у нас амаль няма злачыннасці. І карупцыі, дарэчы, таксама няма». «Няма карупцыі» — гэта, напэўна, мясцовы дэвіз. Пешкі выпраўляюся ў бок Тбілісі. За гадзіну паспяваю двойчы адмовіцца ад чачы на вуліцы, пачуць некалькі мясцовых легендаў і самлець ад спёкі. Таму, калі бачу фуру з армянскімі нумарамі, імгненна ўзнімаю руку.

З армянінам Арцёмам я праводжу ўвесь дзень. Ён расказвае грузінскую гісторыю і армянскія прымаўкі, вучыць армянскай мове. За пераваламі мы спыняемся паабедаць і пачакаць сяброў Арцёма. Ямо сапраўдны грузінскі шашлык (найлепшы, што я еў у жыцці), гародніну, хлеб і запіваем гэта ўсё ліманадам. Пасля варым каву на газавай гарэлцы проста ў кабіне... У Тбілісі трапляю толькі ўвечары.



Second Hand у Тбілісі. Тут я набываю сабе шорты, заплечнік і бейсболку па 1 еўра за штуку.

**Грузія**

Краіна на Каўказе, мяжуе з Расіяй, Азербайджанам, Арменіяй, Турцыяй. Мае выйсце да Чорнага мора. Плошча краіны — 69,700 км², насельніцтва — 4,63 млн чалавек. Сталіца — Тбілісі.

Большая частка Грузіі занята гарамі. Найвышэйшы пункт — гара Шхара (5068 м). У шматлікіх раёнах Грузіі маюцца выхады мінеральных крыніц. У заходніх раёнах пад уздзеяннем Чорнага мора лета — вільготнае і цёплае, зімы мяккія, вялікая колькасць ападкаў.



# Зямлі. Грузія

### Тбілісі

Тут дзіўным чынам спалучаюцца Еўропа і Азія. Вузкія вулічкі запоўненыя крамкамі: грузінскі хлеб і хачапуры, марозіва дзіўнага смаку, дываны, што выпаўзаюць з крамы проста на ходнікі... Тут ты можаш набыць садавіну і гародніну, можаш гандлявацца, можаш частавацца бясплатна. Але ўсяму гэтаму азіяцкаму балагану ўласцівая еўрапейская стрыманасць і акуратнасць, за ім адчуваецца прысмак цывілізацыі.

Тая «цывілізацыя» абсалютна не тоесная «цывілізацыі» мінскай. Тут наяўнасць камп'ютара ці спадарожнікавай талеркі ні на кроплю не змяншае людскую гасціннасць. Тут цябе можа запрасіць на вячэру незнаёмы чалавек і ты будзеш прыняты, як родны брат, — толькі таму, што ты падарожнік. У прыморскім Кабулеці, горадзе, што жыве толькі летам за кошт турыстаў, нашы намёты стаялі проста пад балконамі гатэля, а яго гаспадар частаваў нас хлебам, сырам і гароднінай.

### Гасціннасць і беспрацоўе

Гэтая шчодрасць арганічна вынікае са шчодрасці прыроднай: надзвычай плодная зямля, незлічоная колькасць горных крыніцаў дае краіне пітную ваду, дзясяткі гідраэлектрастанцый прыносяць да 80% электраэнергіі.

Прайсці па грузінскай вуліцы незаўважаным немагчыма. Каля кожнага дома хтосьці сядзіць і абавязкова запросіць на келіх чачы. Чаму цэлы дзень людзі адпачываюць? Бо пануе беспрацоўе. Па афіцыйных звестках у краіне 20% беспрацоўных, па словах мясцовых жыхароў — больш за 50%. Людзі едуць па заробкі ў Турцыю, Еўропу, Амерыку. «Я паеду налета ў Турцыю, — кажа Бадры. — Можа, буду мыць машыны, можа — штосьці-небудзь іншае рабіць. Там не паважаюць грузінаў, за людзей не лічаць, але якое выйсце?» Бадры 18 гадоў, ён жыве ў мусульманскай вёсцы каля турэцкай мяжы. Прафесійна займаецца народнымі танцамі. Марыць стаць маракам, але што будзе далей — не ведае.

### «Прывет Лукашэнку!»

Цягам усяго падарожжа поруч з намі крочыць палітыка. У фразу «Прывет Лукашэнку!» укладаюцца абсалютна процілеглыя сэнсы. Кожнаму цікава: як там у нас?

А нам цікава, як людзі ставяцца да Саакашвілі. Хтосьці паважае яго за адукаванасць і рэформы, хтосьці ненавідзіць за беспрацоўе і пагаршэнне адносінаў з Расеяй, але адно прызнаюць усе: за восем год кіравання Саакашвілі краіна паўстала з каменнага веку.

«Вы можаце не паверыць, — кажа нам уласнік андэграўндбара ў Батумі, — але два гады таму гэта быў першы «нестандартны» бар у горадзе. Толькі год таму з'явіўся першы клуб, які працуе ўзімку». А Батумі — турыстычная сталіца Грузіі, трэці па колькасці насельніцтва горад.



Казбегі, Грузія.



Французжанка Магелон трэці год падарожнічае на ўласным караблі.






Мора. Кабулеці, Грузія.

**Тата — гэта мама**

Па-грузінску «дэда» — гэта «мама», «мама» — гэта «бацька».

Пад Ахалкалакі мяне падбірае дзяржпракурор. «Я маю некалькі тысячаў даляраў заробку ў месяц і добрую машыну. Вядома, я падтрымліваю Саакашвілі. Трэба быць сляпым, каб не бачыць таго, што ён робіць для краіны. Адноўленыя дарогі, паўсюль ідзе будоўля, праводзяцца рэформы... Гэта ж ён робіць не для сябе!» 70 кіламетраў да горада некалькі гадоў таму можна было пераадолець толькі за 3 гадзіны — такой дрэннай была дарога. Зараз мы ляцім з хуткасцю 90 км/г па асветленай ліхтарамі асфальтаванай шашы.

Рэформы і цывілізацыя, аднак, рэчы даволі адносныя. У грузінскай правінцыі людзі дагэтуль амаль не карыстаюцца туалетнай паперай. У сялянскай прыбіральні можна сустрэць жбанок з вадой, проста кран ці нават пук сена. Таму, калі маеш іншыя погляды на пытанні гігіены, мусіш думаць пра гэта загадзя.

### Капітан Магелон

У Грузіі я ўпершыню пабачыў мора. Стаяла ноч, з захаду набліжалася навальніца. Мы выйшлі з машыны — і я адчуў яго салёны пах і прыглушаны шум...

На прычале мы пазнаёміліся з французжанкай Магелон і яе сябрам-іспанцам Шэўе. Магелон ужо тры гады падарожнічае па свеце на ўласным чоўне. Гэтую пасудзінку 1980 года выпуску яна набыла ў 2003, некалькі год збіраўшы на яе грошы. Інтэрнэт, мабільны, GPS — Магелон не ведае гэтых словаў. Гэтая маленькая жанчынка-капітан сядзіць на палубе ўласнага дома і смяецца. «Працяглае аўтаномнага жыцця на караблі залежыць толькі ад запасаў вады, я магу лавіць рыбу і гатаваць з яе сотні страваў».

Іспанец Шэўе падарожнічае без грошай. Быў аператар на адным з тэлеканалаў, зараз ён здымае аматарскае імправізацыйнае відэа і закідае ў сеціва. У заплечніку мае некалькі камераў і партатыўны прынтар, на якім друкуе здымкі і дарыць людзям.

Шэўе пазнаёміўся з Магелон праз каучсёрфінг, калі шукаў месца для начлегу. «Ты жывеш на ўласным чоўне? Не кажы мне болей ні слова, паплылі».

Іспанец размаўляе на іспанскай, французжанка — на французскай. Яны запрашаюць нас на «туркіш чай» і не разумеюць нашага здзіўлення: «Чай — так кажуць у Турцыі, Пакістане, Афрыцы. Цеа, калі вам прасцей».

Ноч перавальвае за палову, мы сядзім на палубе, п'ём дужа моцны туркіш чай і размаўляем за жыццё. «Калі вы маеце жаданне, — пасміхаецца Магелон, заўважыўшы наша захапленне, — можаце спаць на караблі».

Пасля Грузіі я еду ў Арменію, краіну забытых святыняў, кавы і каньяку. Я не ведаю, дзе я буду начаваць і што буду есці, але гэта мяне зусім не турбуе. Будуць новыя людзі і новыя дарогі, будуць новыя ўспаміны. А дзесьці там — праз сотні кіламетраў — мяне чакае дом, які з кожным крокам становіцца ўсё далей і ўсё бліжэй адначасова.

**Яўген Ціханаў, 1—25 ліпеня 2012**

# «Самалёт «Белавія» цёк, туалеты жудасныя, мяса ліпкае»

«Я лётаю «Белавія» рэгулярна, бо з той жа Літвы няма рэйса ў Баку і Астану, куды я езджу ў камандзіроўкі. Ну і, натуральна, квіткі мне купляе кампанія. Рэйсы жудасныя, — піша чытачка Ганна. — Самалёт год таму цёк як пры ўзлёце, так і пры пасадцы.

Пацешна было глядзець на пасажыраў бізнэс-класа, адвешаных ад эканома анучкай, і з розніцай у тым, што ім далі кавалак рыбы з ліпкім пюрэ, а нам па бутэрбродзе, ад якога я адмовілася, бо вяндліна была ліпкая, а мой калега з'еў і мучыўся потым доўга. Дык вось, на тым рэйсе я назірала, як увесь палёт капала на віпаў вада і яны ўсімі анучкамі і сурвэткамі затыкалі шчыліны.

Апошні раз гэтым летам ляцела, самалёт быў ніштаваты, але ежа — рэдкая дрэнь. Увесну ляцела з Баку ў Вільню, і квіток купіла праз Кіеў у Літву. Гэта было даўжэй, але «Аэрасвіт» у параўнанні з нашай «Белавія» — проста казка. Аэрапорт наш мінскі, калі праходзіш у залу чакання, — проста кашмар. Туалеты жудасныя. Кавярня працавала толькі адна, дзьюціфры запоўненыя беларускім шлакам, тыпу «Галатэі» і «Спартака». Прычым у Баку я купляла ў прэзэнт для дырэктара кампаніі цукеркі «Камунарка», дык у мінскім дзьюціфры яны каштуюць даражэй.

У адпачынак, лётаючы ў Еўропу і плацячы свае крэўныя, я лётаю літоўскімі кампаніямі, бо на іх можна даляцець да Мілана або да Барселоны за 100 еўра. І паверце, сэрвіс там нашмат лепшы. Дарэчы, цэны на рэйсы да Швецыі або Нарвегіі наогул па 40–60 еўра. І нешта я не думаю, што ў літоўцаў газа таннейшая, чым у нас.

Наогул, лётаю амаль штомесяц, таму маю права параўноўваць. Наша «Белавія» — жудасны савок і жыгуль мінулага стагоддзя, у параўнанні з кампаніямі нават СНД».

Працілеглага меркавання трымаецца чытач пад псеўданімам С.С.Гарбункоў. Ён лічыць, што цэны на «Белавія» сувымерныя або таннейшыя за кошты іншых дарагіх авіякампаній, а цэны лоўкостаў ніжэйшыя толькі таму, што там горшыя ўмовы пералёту (фіксаваная дата, абмежаванні на багаж, няма перакусу). Што да аэрапорта, то гэта не парафія авіякампаніі, зазначае ён.

**Сяргей Гезгала**




### Меркаванні пра працу «Белавія» праз nn.by

Як ужо дастала гэтае ныццё і наезды на ўсё беларускае! Калі лётаюць у месцы, куды больш ніхто не лётае, дык не дзівіціся такому сэрвісу, бо іншыя і гэтага прапанаваць не могуць! Той жа «Эйр Балтык» пускае летакі ў Лондан у аналагічным стане. Не кажу ўжо пра іншыя накірункі!

**Былы**

Давялося ляцець у Санкт-Пецярбург эканом-класам, цана не благая — усяго 35 еўра каштаваў квіток у чэрвені 2012. Замест прапанаванага палёту ў паўтары гадзіны час у паветры склаў роўна 60 хвілін. Экіпаж англа-беларускамоўны трапіўся, што надало «Белавія» большай годнасці, чым сабе мог уявіць. Таму па дзесяцібальнай сістэме стаўлю 9+! А што тычыцца іншых авіякампаній («Эйр Балтык», «Аэрафлот»), то сэрвіс там адпаведны, калі не горшы. А вось калі казаць пра бутэрброды, то гатуйце свае, бо справа «Белавія» — гэта палёт, пасажырам можна прапанаваць хіба што кавы альбо вады, і гэтага дастаткова. Усё астатняе лічу залішнім.

**Сяргей**

Ляцеў «Белавія» ў Ізраіль, падалі такую жудасную тварожную запяканку, што цяжка нават расказаць — высахлая, зморшчаная цвёрдая маса, падобная на карычневую гуму. Прайшло два гады, а я ўсё яшчэ памятаю, хоць пасля гэтага лётаў ужо рознымі кампаніямі, але нічога падобнага больш ніколі не бачыў.

**Рабіновіч**

Лётаў пару разоў «Белавія», дык адзінае адмоўнае ўражанне — жудаснае ангельскае вымаўленне капітана. А рэшта — просценька, але нармальна. Ежу можна было есці, а пітво — піць.

**Барадзед**

Ляцеў апошні раз з Масквы ў Мінск «Белавія». Прычына — кошт купэ 100 даляраў (плацкарты за тыдзень разабралі), а квітка на самалёт — 90. Таму, параўноўваючы з чыгункай, кошты «Белавія» дастаткова дэмакратычныя. А вось польскім LOT'ам (а гэта звычайная, не лаўкоставая кампанія) даводзілася лётаць у Барселону. Квіток у два бакі — 200 даляраў. То бок тыя ж 100 даляраў у кожны бок за адлегласць у 3-4 разы большую.

**Tumash**

Я даволі шмат карыстаюся паслугамі «Белавія» (некалькі разоў на месяц). Магу параўнаць з «Аэрафлотам», S-7, U Tair ды іншымі, дык вось ежа аднолькавая ва ўсіх, яна не вельмі высокай якасці. Персанал у «Белавія» больш добразычлівы і працуе нармальна. Ніводнага разу не бачыў, каб самалёт цёк, ці з ім рабілася нешта такое. А якасць нашых пілотаў значна больш высокая, чым расейскіх, наколькі я магу параўнаць.

**Vital**

Ляцеў на «Белавія» з Варшавы ў Мінск і назад. Дык на адваротным шляху адна з двюх прыбіральняў не працавала і была замкнена. Аднак трэба зазначыць, што абодва рухавікі самалёта працавалі.

Экіпаж быў надзвычай ветлівы. Што кідалася ў вочы — нібыта яны спрабавалі кампенсаваць хібы «Белавія» і аэрапорта Мінск-2.

Пасажыраў ля трапа ў Мінску сустракаў натоўп памежнікаў, якія суправаджалі прыбылых у памежную зону. Выглядала гэта нібыта нас гналі па этапе і нібыта нехта можа паспрабаваць збегчы.

**Канадыйскі беларус**

У жніўні на Кіпр ляталі «Белавія». Мінск — Ларнака — Мінск. «Боінг», зразумела, не новы, але, на выгляд, у добрым стане. Бізнэс-клас за шторкамі — віно з ікорнымі бутэрамі каштаваў (адразу за імі сядзелі), але і нам, эканомам, цукеркі прынеслі, напоі прапаноўвалі (не алкагольныя, гэта ў дзьюціку самім трэба набываць), ежа проста нармальная, толькі занадта гарачая (аб чым папярэджвалі сцюарды).

**Валькірыя**

«Белавія» — гэта гістарычны выкапень, іхтыязаўр. Ляцеў з Парыжа, падыходжу за білетам, заплаціўшы па тэлефону крэдыткай, а білет агент «Белавія» сапсавала, калі выпісвала, білеты на выгляд — таксама гістарычны выкапень, але самае цікавае, што паляцеў я без білета, маўляў, залазь і так возьмем, а вось білет назад у Парыж я павінен быў шукаць сам у офісе «Белавія».

**Касінер**

**Дасылайце свае меркаванні аб працы «Белавія» на адрас nn@nn.by.**

# Беларуская глыбіня. **Чаму мы такія?**

Піша **Павел Севярынец**.

*Так кажа Госпад:*
*пракляты чалавек,*
*які спадзяецца*
*на чалавека,*
*і плоць робіць*
*сваёй апорай,*
*і сэрца якога аддаляецца*
*ад Госпада.*
*Ераміі 17:5.*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

«НН» друкуе лісты Паўла з цыкла «Беларуская глыбіня».

Да спітых, пабітых, скамечаных беларускіх твараў прызвычаіцца немагчыма.

Аніяк.

Нават сярод апошніх «хімікаў», нават сярод калгаснікаў на гэтыя зямлістыя, з мяшкамі ды падцёкамі, з вышчарбленымі і падгнілымі зубамі руіны вобразу і падабенства Божага, што тонуць у безнадзейных, балотнага колеру вачах, глядзець балюча. Ды з такімі ж гожымі, шляхетнымі прозвішчамі — той ад караля, той ад Базыля, той ад бурштыну, той ад апостальскага імя... Глядзіш, як павольна тлее родная, стагоддзямі вылепленая прыгажосць — і халадок па скуры ад таго, што ўсярэдзіне тоіцца нешта яшчэ страшнейшае.

Бывае, і сам акунешся ў люстра — брыдка.

Беларус, як ёсць сённяшні знямоглы, напаўразбураны беларус.

Чаму вакол нас усё так кепска? — пакутліва дапытваемся мы адно аднаго. А вакол усяго толькі заканамерны вынік таго, што ў нас.

Стаўленне «хімікаў» да сваіх жа, міліцыянераў да «хімікаў», гаспадароў да рабочых, а рабочых да сваёй працы, вяскоўцаў да фермераў, а прадавачак аўталаўкі да вяскоўцаў, праваслаўных да баптыстаў, а каталікоў да праваслаўных, усё гэтае мяккае, што правальваецца, усё гэтае цвёрдае, што гнецца ды звіваецца вузламі, скоўтваеш моўчкі — паўсюль, паўсюль вылазіць яно, наша такое беларускае... з гнільцой і душком.

У гэтым сорамна прызнавацца — але трэба. Інакш — жыць нам у балоце: мокра ды цёпла, смярдзіць, ай, затое сваё, да горла ў твані, але абы хвалю не гналі.

**Да горла ў твані, але абы хвалю не гналі**

Сябе не падманеш — сама мярзотна тхне найлепшае, якое пачынае псавацца.

Мудрая беларуская асцярожнасць у нас стухла да стану ліпкае баязлівасці; унікальная цярплівасць сцялася ў невыносную цярпімасць да зла; так шанаваная Шушкевічам руплівая ашчаднасць здрабнела да сквапнасці, а знакамітая кемлівасць вычварылася ў круцельства; глыбокая засяроджанасць ужо настолькі заглыбілася, што анічога не прасвечвае з тае беларускае душы, акрамя змрочнасці, асабліва заўважнай старонняму на тле чысценькіх вуліцаў; Боская беларуская пакорлівасць выродзілася без веры ў павальнае халуйства, а натхнёную беларускую любоў — мілую, закаханую, неспатольную — ванітуе на кожным рагу блудам.

Народ, які спарадзіў столькі геніяльных пісьменнікаў, кампазітараў, спевакоў ды цэлыя культуры для суседзяў — адмаўляецца ад сваёй мовы.

Нашчадкі цывілізацыі ВКЛ, што дагэтуль застаецца еўрапейскай вяршыняй талерантнасці, правасвядомасці і міжмоўя, стагоддзямі кшталтаваныя Статутамі, радамі, судамі ды соймамі — абыякавыя да ўласнай дзяржаўнасці.

Нацыя, чыёй сарцавінай ёсць поўная Хрыстовых пакутаў ды самаахвярнасці гісторыя, маючы выключна хрысціянскія сімвалы і наскрозь біблейскі генетычны код, — выракаецца Бога.

Ды і ці ёсць наогул у свеце грэх, глыбейшы за беларускі?!.

Так шкада гэтай Альгердавай моцы, Скарынавай ёмістасці, Касцюшкавай цвёрдасці, багдановіцкай прыгажосці...

Але хіба *тады* гэтае зло не сядзела ў нас — пакуль яшчэ ціха?.. Хіба гэта нетутэйшыя манахі XVII стагоддзя да калецтва біліся кляштар на кляштар за ставы і сеткі ў спрэчных валоданнях — гэта каб, значыць, на стале рыбка была ў хрысціянскі пост!..

І вось напіваецца сённяшні забіты, забыты, ціхмяны беларус, і са скуры раптам вылазіць звер: ды такі ярасны, ды такі здзічэлы, быццам вырваўся з пекла.

Святое месца пустым не бывае. Пакліканыя стаць выбраным Божым народам у сэрцы Еўропы, мы ўнікаем уласнага лёсу — і прападаем.

Так у нашай гісторыі скрозь: варта адступіць ад Бога, адмовіцца ад волі, пазаначваць у норы таленты, ухіліцца ва ўтульнае, рабства — і беларус уразнос ідзе да д'ябла.

І вось у краіне друкаванай Бібліі і тысячагадовага хрысціянства ўцаркоўлены вернік — усяго кожны дзясяты.

І вось народ Статута сярод усіх — у тройцы першых паводле асуджаных вязняў на душу насельніцтва.

І вось Беларусь-жыццялюбка ўжо наперадзе ў сусветнай статыстыцы самагубстваў...

— Фу, ды нашто ў гэтым корпацца! Дастала яно, вашае нашае самаедства! — псіхане беларус.

Спакойна. Проста, капаючы ў сабе яму, трэба ведаць, што шукаеш скарб.

Бо беларускае самакапанне, непазбежна глыбокае, глыбіннае, можна будзе лічыць вычарпаным толькі ў адным выпадку: калі скрозь тленную тоўшчу грэху, перагнілую волю і пяскі забыцця адрыем у труне свайго сэрца пахаваную жывую крыніцу — вобраз і падабенства Вечнага Усёмагутнага Бога.

*Куплін*

# Спевака Якава Навуменку забілі ва Украіне

**Гэта здарылася ў Севастопалі, дзе спявак у свой час пачаў дарогу ў жыццё.**

У панядзелак ноччу ў Крыме памёр народны артыст Беларусі Якаў Навуменка. Пяць дзён ён правёў у рэанімацыі ў прытомнасці. Прычына смерці — пералом чэрапа.

Першая версія інцыдэнту выглядала так: Якаў Навуменка разам з сынам Ціханам адправіўся на канцэрт, дзе ўбачыў на сцэне свайго старога знаёмага. Спявак паспрабаваў прайсці за кулісы, аднак яго не прапусціў ахоўнік, пачалася бойка.

Аднак версія севастопальскай міліцыі абвяргае інфармацыю пра канцэрт. Паводле афіцыйнай заявы, трагедыя адбылася ў цэнтры горада, на Прыморскім бульвары ля плошчы Нахімава. Якаў Навуменка пачаў спрачацца з невядомай асобай (па некаторых звестках — вулічным музыкам), пасля чаго пачалася штурханіна, у выніку якой Навуменка ўпаў на асфальт і стукнуўся галавой аб бардзюр.

Якаў Навуменка апынуўся ў шпіталі. Трэпанацыя не дапамагла ўратаваць жыццё спевака.

Дырэктар АГА «Музычны прадзюсарскі цэнтр» Андрэй Каліна даведаўся пра смерць Навуменкі за гадзіну да таго, як з'явіліся першыя паведамленні ў СМІ.

«Ён мусіў выступаць на канцэрце 31 жніўня, — расказвае Каліна. — Тыдзень таму я даведаўся ад ягонай жонкі, што Якаў Паўлавіч у шпіталі і знаходзіцца ў коме. Аднак ад навіны пра смерць Якава мы ў шоку».

Паводле першай інфармацыі, у бойцы пацярпеў сын Якава Навуменкі Ціхан. Гаварылі, што хлопцу зламалі сківіцу, аднак моцных пашкоджанняў невядомыя яму не нанеслі — менавіта Ціхан пацвердзіў, што бойка адбылася не на канцэрце.

Следчы камітэт Украіны распачаў крымінальную справу па першай частцы артыкула 105 — наўмыснае забойства. Зараз забойцу шукаюць.

Апошнім захапленнем Якава Навуменкі стала стварэнне архіва беларускамоўнай песні, якой не засталося нават на Беларускім радыё — музыка звязваўся са сваімі калегамі, шукаў рарытэты, пераводзіў іх у лічбавы фармат. Па словах Якава Навуменкі, яму было вельмі крыўдна, што сапраўдныя шэдэўры беларускай песні не можа пачуць кожны жадаючы.

«Гэты чалавек меў свайго слухача, сваю публіку, — узгадвае лідар ансамбля «Сябры» Анатоль Ярмоленка. — Якаў вельмі клапаціўся пра беларускую песню, літаральна некалькі дзён таму мы з ім размаўлялі — ён прасіў запісы старых песняў «Сяброў».

**Юрась Ускоў**



**Якаў Навуменка**

нарадзіўся 28 сакавіка 1959 у Оршы. Вучыўся ў мінскай кансерваторыі, Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных, дзе яго настаўнікамі былі Іосіф Кабзон, Леў Лешчанка, Гелена Веліканава. Ён быў салістам такіх вядомых калектываў, як «Свята» і «Бяседа». Апроч таго Якаў Навуменка выступаў з Нацыянальным акадэмічным народным аркестрам імя Жыновіча.

« Навуменка збіраў архіў беларускамоўнай песні

# Ці паспеюць выкупіць «Вялікае майстэрства артылерыі»?

**Сабраць 15 тысяч еўра на выкуп унікальнай кнігі Казіміра Семяновіча аказалася цяжкай задачай.**

«Мы імкнёмся дамовіцца з прадаўцом, каб ён падоўжыў тэрмін, — расказвае Андрэй Радкоў, ініцыятар збору сродкаў. — Аднак дакладна вядома, што ён мае іншыя прапановы».

Збіраць сродкі пачалі ў чэрвені. Пяць мільёнаў рублёў на кнігу ахвяравала фірма «Трайпл» Юрыя Чыжа, астатняе сабралі добраахвотнікі. Бізнэсоўца і мецэнат Павел Бераговіч ахвяраваў на кнігу дзве тысячы даляраў.

Магілёўскі музей не губляе надзеі выкупіць рэдкае выданне — у канцы чэрвеня дырэкцыя арганізавала дабрачынны суботнік, цяпер ідзе падрыхтоўка канцэрта ў падтрымку збору сродкаў.

«Мы лічым, што кнігі — гэта найвышэйшы культурны здабытак нацыі, — кажа Радкоў. — Тым больш, мы не здольныя выкупіць кароны ці троны князёў — большасць з іх знаходзіцца ў музеях і зборах суседніх краін. Але сёння ў нас ёсць шанец — выратаваць хоць кроплю нашых каштоўнасцяў».

Тым часам у інтэрнэце на аўкцыёне ebay з'явіліся іншыя рарытэты, звязаныя з Беларуссю — тры мапы зямель Вялікага Княства Літоўскага, датаваныя 1791 годам. Мапы Полаччыны, Наваградчыны і Берасцейшчыны стварыў аўстрыйскі картограф Франц Ёган Ёзэф фон Рэі для Атласа пяці частак свету. Усе мапы выкананыя ў форме каляровых гравюраў з медзі. Кошт адной мапы складае 105 еўра.

**ЮУ**

Французскае выданне 1651 года кнігі «Вялікае мастацтва артылерыі» належыць пяру Казіміра Семяновіча. Аўтар быў шляхцічам ВКЛ, інжынерам і тэарэтыкам артылерыі, мысліцелем-гуманістам, а таксама ўдзельнікам шматлікіх войн і аблогаў. Яго кніга Artis Magnae Artilleriaeparsprima стала дапаможнікам для артылерыстаў усяго свету на стагоддзі. У ёй Семяновіч першым у свеце выказаў ідэю стварэння шматпрыступкавай ракеты, апярэдзіўшы такім чынам эпоху заваявання космасу на 300 гадоў. Французскі пераклад быў зроблены пад наглядам самога аўтара.

# Крытычны фільм пра Абаму стаў лідарам пракату ў Амерыцы

**Дэмакраты вінавацяць дакументальную стужку «Амерыка Абамы: 2016» у неаб'ектыўнасці.**




У пятніцу фільм выйшаў на экраны больш чым тысячы кінатэатраў і зарабіў $ 2,2 млн. Паводле прагнозаў аналітыкаў, усяго за выходныя ён збярэ больш за $ 8 млн і ўвойдзе ў пяцёрку самых папулярных фільмаў тыдня.

Кінастужка «Амерыка Абамы: 2016» створана на аснове бестселера кансерватыўнага калумніста Дынэша Д'Саузы «Карані гневу Абамы». У трэйлеры фільма Д'Сауза расказвае аб сваім імкненні раскрыць разуменне Абамам светабудовы праз лёс яго кенійскага бацькі.

Дэмакраты заявілі, што кінастужка заклікана дыскрэдытаваць Абаму ў вачах выбаршчыкаў перад прэзідэнцкімі выбарамі, і абвінавацілі яе стваральнікаў у тэндэнцыйнасці. Як можа кенійскі бацька паўплываць на Абаму наймацней, калі яго выгадавала белая маці і яе тата, ветэран Другой сусветнай, кажуць лібералы.

У Беларусі немагчымы не тое што паказ у кінатэатры крытычнага фільма пра Лукашэнку, але і найменшая крытыка кіраўніка дзяржавы ў публічнай сферы.

**Сяргей Гезгала**

## Сцісла

### У Мінск прыедзе Nickelback

Канадскі рок-гурт выступіць у сталіцы 31 кастрычніка. Ён прэзентуе свой апошні альбом Here and Now. Канцэрт пройдзе ў Мінск-Арэне.

### Фільм пра Плошчу перамог на фестывалі ў Харватыі

Стужка «Даволі! Да Волі...» рэжысёраў Вячаслава Ракіцкага і Андрэя Куцілы заваявала галоўны прыз у намінацыі «найлепшы дакументальны фільм» на Еўрапейскім кінафестывалі ў горадзе Опузэн (Харватыя).

### «ЛіМ» і «Звязда» аб'яднаюцца ў холдынг да 1 кастрычніка

Плануецца, што тэматыкай новага выдавецтва будзе культура.

### «Пагоня на Грунвальд» — у залатой серыі

Выбраныя творы Кастуся Тарасава выйшлі ў «Беларускім кнігазборы». Сёлета плануецца выданне зборнікаў гісторыка Анатоля Грыцкевіча і пісьменніка Алеся Адамовіча.

### У пісьменніка Віктара Карамазава — інфаркт

Але прагнозы добрыя. «Яго адразу паклалі ў рэанімацыю лечкамісіі, — расказвае сябра Карамазава пісьменнік Віктар Казько. — Калі ён вытрымаў рэанімацыю, то ўсё будзе больш-менш добра. Ён правядзе ў шпіталі яшчэ пару тыдняў, пасля будзе рэабілітацыя, хутчэй за ўсё ў Аксакаўшчыне».

### На канцэрт Lady Gaga ў Вільні прыйшло 20 тысяч чалавек

Сцэну, начынне для якой прывезлі 25 трэйлераў, усталёўвалі некалькі дзён. Гэта было сапраўднае шоу.

### Вайсковая гісторыя ВКЛ

Новы нумар часопіса «ARCHE» прысвечаны вайсковай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Сярод матрыялаў: «Міліцыя Радзівілаў у XVIII ст», «Ад добраахвотнікаў да наёмных жаўнераў. Полк лісоўчыкаў у перыяд вайны з Масквой», «Героі, здраднікі, прыстасаванцы: асабістыя трагедыі ў вайну 1654—1667».

**ЛМ, ЮУ**

## ФУТБОЛ

**1—2 верасня** адбудуцца матчы 23 тура Чэмпіяната Беларусі па футболе:
«Славія» (Мазыр) — «Нафтан» (Наваполацк);
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Белшына» (Бабруйск);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Брэст»;
«Гомель» — БАТЭ (Барысаў);
«Дынама» (Мінск) — «Нёман» (Гродна).

## ХАКЕЙ

### Фінал Кубка Беларусі

**У паядынку** за трафей 1 верасня сустрэнуцца «Гомель» і жлобінскі «Металург». Матч пройдзе на «Мінск-Арэне». Пачатак а 17:00.

## БАСКЕТБОЛ



### Беларусь — Турцыя

**2 верасня ў Палацы спорту ў Мінску** адбудзецца адборачная сустрэча да чэмпіянату Еўропы. Нашы хлопцы пазмагаюцца з туркамі. Пачатак а 19:30. Білеты — 25 000 — 45 000 рублёў.

## КАНЦЭРТЫ

### Gangsta Jazz

**29 жніўня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — Gangsta Jazz: Аляксей Паршын і гурт The Secret Ingredient.

### Нагуаль

**30 жніўня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурта «Нагуаль».

### The Apples

**31 жніўня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — фінальны rock'n'roll лета з гуртом The Apples.

### Litesound і «Міс Байнэт-2012»

**Група Litesound прэзентуе новую песню на сцэне Fashion club (Янкі Купалы, 25) 31 жніўня**, у рамках адкрыцця нацыянальнага анлайн-конкурсу прыгажосці «Міс Байнэт-2012». Білеты для мужчын — 150 тысяч, для жанчын — 100.

### Музычныя скарбы Еўропы прагучаць у Нясвіжскім замку

**Тэатральная зала палаца** на тры месяцы адкрые свае дзверы для канцэртаў класічнай музыкі ў выкананні ансамбля «Кантабіле». Канцэрты ансамбля старажытнай музыкі «Кантабіле» будуць ладзіцца кожную суботу і нядзелю ў 12 і ў 17 гадзін цягам трох месяцаў. Да зімняга сезона Музычны дом «Класіка» падрыхтуе новую, адмысловую праграму.

## ВЫСТАВЫ

### Zabor

**У парку Чалюскінцаў** працуе выстава рэпрадукцый пад адкрытым небам Zabor. На агароджы, што па правы бок ад цэнтральнага ўвахода ў парк, экспануецца некалькі дзясяткаў прац чатырох беларускіх мастакоў: Руслана Вашкевіча, Сяргея Каваля, Уладзіслава Стальмахова і Віктара Альшэўскага.

### Жывыя матылькі

**Да 31 жніўня ў Мастацкай галерэі Мінскага абласнога цэнтра мастацкай творчасці (Гікалы, 4)** працуе выстава жывых экзатычных матылькоў. Наведнікі выставы могуць назіраць свабодны палёт матылькоў, іх узаемаадносіны, а таксама ўсе метамарфозы іх развіцця.



**Дні пісьменнасці ў Глыбокім**
Праграма мерапрыемства:
**1 верасня**
10.00 — Адкрыццё мемарыяльнай дошкі, прысвечанай Лявонцію Ракоўскаму
10.00-18.00 — Выстаўка-прэзентацыя «Паэтычная гасцёўня» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, прысвечаная творчасці народных паэтаў Беларусі Я.Купалы, Я.Коласа, М.Танка
11.00— Адкрыццё выставы «Прысвячэнне Году кнігі»
10.00—18.00 — Перасоўная выстаўка, прысвечаная творчасці беларускага тэатральнага і літаратурнага дзеяча Ігната Буйніцкага
11.00—12.00 — Фальклорнае свята «Рэй вядзе Ігнат Буйніцкі»
Галоўная сцэна (цэнтральная плошча)
18.00—19.30 — Канцэрт Заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь ансамбля народнай музыкі «Бяседа»
22.00—24.00 — Этнадыскатэка «Старадаўнія рытмы»
Вуліцы горада
**2 верасня**
11.00—11.30 — Цырымонія адкрыцця Сквера славутых землякоў-глыбачан
12.00—13.00 — Урачыстае адкрыццё Дня беларускага пісьменства
14.00—15.30 — Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г.Цітовіча
17.00—18.00 — Маладзёжны праект «Час выбраў нас»
Плошча
**17 Верасня**
10.00—18.00 — Фестываль кнігі і прэсы
11.00—15.00 — Дзіцячы пленэр імя Язэпа Драздовіча
10.00—17.00 — Тэатралізаванае прадстаўленне «У гасцях у Ігната Буйніцкага»
Выступленне «ўзорных» і «народных» тэатральных калектываў вобласці
Майстар-клас клуба народных майстроў «Крыніца»
10.00—22.00 — Тэатралізаванае прадстаўленне «На раздарожжы» з удзелам Альгерда, магнатаў Корсака і Зяновіча
11.00—17.30 — Паказальныя выступленні парашутыстаў
20.00—22.00 — Урачыстае закрыццё Дня беларускага пісьменства.
Гала-канцэрт майстроў мастацтваў
22.00 — Святочны феерверк




### Партатыўныя лялечныя тэатры

**У Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры** працуе выстава партатыўных лялечных тэатраў «Міракль аб Уршулі».

### Выстава аднаго твора

**Да 30 верасня ў філіяле «Дом Ванькові чаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX стагоддзя»** працуе выстава аднаго твора. Гэта графічны ліст, які ўзнаўляе «Аўтапартрэт» Валенція Ваньковіча (з жывапіснага арыгінала да 1840 г.), выкананы ў тэхніцы каляровай літаграфіі.

## ТЭАТРЫ

### 29 жніўня

**Сучасны мастацкі** — «Турандот»
**Беларускай драматургіі** — «Sypemeda»

### 30 жніўня

**Сучасны мастацкі** — «Турандот»
**Беларускай драматургіі** — «Sypemeda»

### 31 жніўня

**Беларускай драматургіі** — «Sypemeda»

### 1 верасня

**Сучасны мастацкі** — «Пара Па Парах»
**Беларускай драматургіі** — «Sypemeda»

### 2 верасня

**Сучасны мастацкі** — «Папялушка»

### 3 верасня

**Купалаўскі** — «Паўлінка»

### 5 верасня

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

## КІНО

### Фільм з героямі 90-ых

Нястрыманыя-2 (The Expendables 2)
ЗША, 2012, каляровы, 102 хв.
**Рэжысёр:** Сайман Уэст
**Ролі выконваюць:** Сільвестр Сталонэ, Джэйсан Стэйтэм, Жан-Клод Ван Дам, Брус Уіліс, Арнольд Шварцэнэгер, Чак Норыс, Джэт Лі, Нань Юй, Тэры Крус, Рэндзі Куцюр, Лаям Хэмсварт, Дольф Лундгрэн
**Жанр:** Баявік
**Адзнака:** 6,5 (з 10)

Герой Сільвестра Сталонэ па даручэнні сябра з ЦРУ (Бруса Уіліса) мусіць адшукаць таямнічую скрыню з падарванага верталёта. Але нягоднік з прагай сусветнай улады (Ван Дам) забівае аднаго з «нястрыманых», а скрыню выкрадае. Героі ідуць помсціць.
Другая частка «Нястрыманых» — стары добры баявік са слыннымі акцёрамі 90-х. Замест навязлівых камп'ютарных эфектаў і гламуру — прос ты як пяць грошыкаў сюжэт, запэцканыя твары і крутыя бойкі класічнай школы. Дабро з кулакамі (і пачуццем гумару) вярнулася, каб запаліць.
З'яўленне кожнага акцёра дасціпна абыгрываецца (Арнольд Шварцэнэгер, Чак Норыс), але фільм — зусім не зала састарэлай славы. Кожнаму ёсць што сказаць гледачу, а дакладней — што яму паказаць. Новыя часы дадалі ў годны стараражымны баявік тэрарыстычную тэму і ўзмацнілі інтэрнацыянальны склад каманды «Нястрыманых». Сярод іх ёсць і беларус.

**Андрэй Расінскі**



# Тэхналогіі, якія зменяць жыццё

Акуляры-камп'ютар, аўто без кіроўцы і **надрукаванае мяса**.

«Хатні камп'ютар будзе нікому не патрэбны», — упэўнена прадказваў трыццаць гадоў таму адзін з заснавальнікаў першых камп'ютараў амерыканец Кен Олсен. З таго часу тэхніка настолькі скокнула наперад, што ніхто не здзіўляецца, калі свае ноўтбукі і планшэты ёсць у зусім маленькіх дзяцей. А чалавецтва працягвае вынаходзіць усё новыя і новыя ідэі, каб зрабіць сваё жыццё больш цікавым і камфортным. Якія рэвалюцыйныя планы могуць быць рэалізаваныя ў найбліжэйшы час?

### Акуляры дапоўненай рэальнасці

Адна з найбуйнейшых карпарацый свету, Google, заканчвае тэставаць сваю новую распрацоўку, так званыя акуляры дапоўненай рэальнасці. Прылада ўяўляе сабой абадок, які трымаецца на пераноссі і за вушамі. Насупраць правага вока размешчаныя мініяцюрныя экран і камера, якімі можна кіраваць голасам. Па просьбе ўладальніка акуляры нагадваюць пра прызначаныя сустрэчы, падказваюць дарогу ці расказваюць апошнія навіны.

Google не раскрывае ўсіх тэхнічных падрабязнасцяў свайго праекта, але мяркуецца, што інфармацыя будзе трапляць на экран акуляраў з мабільнага тэлефона. Карцінка з запытанымі дадзенымі будзе накладацца на выяву рэчаіснасці. Апроч таго, акуляры могуць і самі праяўляць «ініцыятыву, напрыклад, калі чалавек паглядзіць у акно, на экране з'явіцца прагноз надвор'я.

Першая акуляры дапоўненай рэальнасці з'явяцца ў продажы ў пачатку 2013. Яны выйдуць абмежаванай партыяй, іх арыенціровачны кошт складзе $1500.



Акуляры дапоўненай рэальнасці здалёк падобныя на звычайныя акуляры.

### Аўто без кіроўцы

Яшчэ адзін гучны праект Google — распрацоўка беспілотнага аўтамабіля, які называюць «гугламабілем». Карпарацыя перакананая, што аўтаматызацыя кіравання зменшыць колькасць аварый на дарогах. На даху аўто ўсталяваныя сэнсары і камеры, інфармацыя з якіх апрацоўваецца навігацыйнай сістэмай.

Пробныя аўтамабілі без кіроўцаў ужо наездзілі больш за 220 тысяч кіламетраў. За гэты час аварыя здарылася толькі адна — у гугламабіль, які стаяў на святлафоры, ззаду ўрэзалася іншая машына.

Выпрабаванні перадусім адбываюцца ў амерыканскім штаце Невада. Менавіта тут Google здолеў пралабіраваць закон, які дазваляе выкарыстанне аўтамабіляў без кіроўцаў на дарогах агульнага карыстання.

### Выдаленне хваробаў з ДНК дзіцяці

Кошт правядзення ДНК-тэстаў змяншаецца, і гэта дазваляе ўсё большай колькасці людзей правяраць свой арганізм на наяўнасць генетычных хваробаў. Калі тэхналогія працягне ўкараняцца, будучыя муж і жонка, перад тым як пабрацца шлюбам, змогуць праверыць сябе на біялагічную спалучальнасць. Калі аналізы пакажуць, што пагрозы генетычных хвароб у іх дзяцей не будзе, то такія партнёры з чыстым сэрцам змогуць прыступіць да будаўніцтва сям'і.

У адваротным выпадку генетыкам давядзецца выкарыстоўваць ЭКА-тэхналогіі для выдалення з арганізма дзяцей невылечных хваробаў. У будучыні навука можа дайсці і да праграмавання знешнасці дзяцей.

### Надрукаванае мяса

Тэхналогіі трохвымернага друку ўжо цяпер дазваляюць ствараць цвёрдыя аб'екты з розных матэрыялаў. У выніку іх працы з прынтара выходзіць не аркуш паперы з раздрукаванай выявай, а паўнавартасная мадэлі, напрыклад, медыцынскія імплантанты, зброя ці нават спартыўны абутак.

Наступным крокам трохвымернага друку могуць стаць штучныя прадукты. Амерыканскі мільярдэр Пітэр Тыель выдзеліў каля мільёна даляраў на развіццё гэтага праекта. На яго думку, біянадрукаванае мяса будзе экалагічна чыстым спосабам задаволіць чалавечае жаданне да жывёльнага бялку.

### Сэкс-робаты замест прастытутак

Улады Амстэрдама гатовыя на пацеху турыстам адкрыць першы ў свеце публічны дом з робатамі-прастытуткамі. У новаўвядзенні ёсць свае плюсы. Па-першае, гэта дапаможа змагацца з гандлем людзьмі, па-другое, знішчыць рызыку падхапіць венерычную хваробу, бо робатаў будуць дэзынфіцыраваць.

Індустрыя развіваецца няспынна і пастаянна ўдасканальвае сэксмадэлі. Яны цяпер робяцца з матэрыялу, які навобмацак нагадвае чалавечую скуру, а самыя дарагія нават умеюць падтрымаць гутарку з кліентам.

**Ягор Марціновіч**



Выглядае не надта апетытна, затое задавальняе і вегетарыянцаў.

# У мінскай краме Apple найлепш прадаецца новы iPad




Ягоны кошт — **ад 4,6 мільёна.**

10 жніўня ў Мінску адчынілася фірмовая крама Apple. Яна мае назву i-Store і належыць кампаніі «Аўтаматызаваныя сістэмы бізнэс кантролю». Кіраўнік аддзела маркетынгу «АСБК» Кацярына Карвацкая расказала пра выніку першых дзён працы.

У дзень адкрыцця i-Store наведалі сотні чалавек. У краме вядзецца як улік наведвальнікаў, так і ўлік пакупнікоў. Іх колькасць залежыць ад дня тыдня, ад выхаду навінак і наяўнасці новых акцый. «Недахопу пакупнікоў мы не адчуваем. Я ні разу не бачыла, каб у краме былі толькі нашы прадаўцы-кансультанты — наведвальнікі ёсць заўсёды!» — кажа кіраўнік аддзела маркетынгу.

Больш за ўсё ў першыя дні працы крамы набывалі аксесуары. Таксама добрым попытам карыстаюцца новы iPad і iPod. Паколькі афіцыйная рэалізацыя iPad у Беларусі пачалося менавіта 10 жніўня і была прымеркавана да адкрыцця крамы i-Store, то па продажах менавіта гэты планшэт па-за канкурэнцыяй.

Асноўную мэтавую аўдыторыю Apple можна падзяліць на дзве групы: «піянеры» (маладыя, цікаўныя пакупнікі, якія цікавяцца ўсім новым і экзатычным) і «першыя прымаючыя» (людзі, якія знаходзяцца ў пошуках новых прадуктаў, якія палегчаць іх бізнэс і асабістае жыццё).

У Мінску прадукцыя Apple прадаецца па еўрапейскіх цэнах. Яны рэкамендаваныя галаўным офісам. Кацярына Карвацкая запэўнівае, што цэны на тавары ў іх краме не палохаюць пакупнікоў.

**Сямён Печанко**

**Колькі каштуе**

Ноўтбукі Macbook Air — 11,2—17,5 мільёна рублёў, MacBook Pro — 13,4—31,5 мільёна, планшэты iPad — 4,6—9,8 мільёна, плэеры iPod shuffle — 650 тысяч рублёў, iPod nano — 1,6—1,9 мільёна.

# Па Мінску арганізуюць экстрэмальныя экскурсіі

**Закінуты кінатэатр** замест бібліятэкі.



Для тых, каму надакучыла традыцыйнае падарожжа па сталіцы Беларусі — вакзал, Нацыянальная бібліятэка, «Мінск-Арэна», — энтузіясты засноўваюць туры па «экстрэмальным Мінску».

На віртуальнай карце экскурсій на сайце vkedah.by пакуль усяго тры аб'екты: парк з дзіўнымі скульптурамі, закінуты кінатэатр і камерны дворык, у які фатографы вывешваюць сушыцца свае здымкі. Арганізатары прапаноўваюць дадаваць і свае любімыя арыгінальныя аб'екты.

**ЯМ**

## Сцісла

**У інтэрнэце штодня сядзіць каля 60% дарослых беларусаў**

Такія дадзеныя прыводзіць Белстат. Інтэрнэт выкарыстоўваюць перадусім для працы з электроннай поштай, а таксама для пошуку і размяшчэння інфармацыі.

**«Белавія» збіраецца лятаць у Ніцу і Цюрых**

Хутчэй за ўсё рэйсы ў гэтыя гарады з'явяцца ў новым вясновым раскладзе кампаніі. Абодва кірункі досыць дарагія, пра патокі турыстаў, тым больш пра масавы турызм, гаворку весці складана.

**Аналагавыя тэлевізары перастануць выпускаць**

Да канца 2012 будзе спынена вытворчасць тэлевізараў, якія не падтрымліваюць сандарты лічбавага тэлевізійнага вяшчання. І «Гарызонт», і «Віцязь» цалкам пяройдуць на новую тэхналогію.

**ЯМ**



**У Іспаніі пенсіянерка Сесілія Хіменес сапсавала царкоўную фрэску, спрабуючы дамаляваць фрагменты, якія сцёрліся. Прыхаджанка лічыла, што фрэску ніхто не рэстаўруе, таму ўзялася за справу сама. Ніхто заўваг ёй не рабіў, пакуль не пабачылі вынікі. Фрэсцы Эліса Марцінеса больш за сто гадоў, яна лічыцца галоўнай славутасцю мястэчка Борха (блізу Сарагосы). Цяпер яна набудзе яшчэ большую славу. Карыстальнікі інтэрнэту ўпадабалі «рэстаўрацыю», яны патрабуюць захаваць твор.**

## Анекдоты

* * *

Ва ўрад прыйшоў уладкоўвацца на працу малады чалавек.

— Што вы ўмееце рабіць?

— Нічога.

— Гэтыя вакансіі ўжо запоўненыя.

* * *

Калі карупцыя зніжаецца, то чыноўнікі ідуць на пасадку.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Крайск. Вілейскі павет.** 29 ліпеня ноччу крайскія хлопцы, не маючы за што выпіць, згаварыліся і, пайшоўшы да склепа з півам жыдоўкі З.Д., выламалі дзверы і пакралі шмат піва. Але скора жыды агледзеліся і па свежых слядах з паліцыяй знайшлі зладзеяў і пабралі іх.

**«НН». №32. 1912.**

**Надрукаваная штогадовая справаздача** сусветнай няўрадавай арганізацыі Transparency International, якая займаецца праблемамі барацьбы з карупцыяй. У Беларусі някепскія пазіцыі. За год яна палепшыла паказчыкі з 44-га да 36-га месца.

**«НН». №32. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснік галоўнага рэдактара | Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8030. Газета выдаецца 48 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 23.00 28.08.2012.

Замова № 3221.

Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 12032